ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА ДЛЯ СУАЙЧЫННІКАЎ ЗА МЕЖАМІ БАЦЬКАЎШЧЫНЫ

# Голас Радзімы

№ 51 (2349) 23 снежня 1993 г. Выдаецца з 1955 г.

Цана 10 рублёў.

# ЯКОЙ ПАВІННА БЫЦЬ МІЛІЦЫЯ, КАБ НАЗЫВАЦЦА НАЦЫЯНАЛЬНАЙ

**З Іванам БАСЕЦКІМ, намеснікам начальніка Акадэміі міліцыі МУС Рэспублікі Беларусь, доктарам юрыдычных навук, прафесарам, гутарыць Дзіяна ЧАРКАСАВА.**

-- Іван Ігнатавіч, як вы лічыце, беларуская нацыянальная міліцыя -- гэта штосьці рэальнае, канкрэтнае? Ці такое ж уяўнае, як пакуль што і наш шматпакутны суверэнітэт?

-- Як вядома, Мінская вышэйшая школа міліцыі не так даўно пераўтворана ў Акадэмію міліцыі Міністэрства ўнутраных спраў Рэспублікі Беларусь, дзе, як і раней, слухачы атрымліваюць вышэйшую юрыдычную адукацыю. Перамены адбыліся не толькі ў змене назвы навучальнай установы. Яны ў самім вучэбным працэсе, яго змесце. Перамены, адпаведныя патрабаванням часу, нацыянальным умовам, асноўным напрамкам пабудовы ў нас прававой дзяржавы. Стаўленне і развіццё прававой дзяржавы ў Рэспубліцы Беларусь і нараджэнне нацыянальнай міліцыі немагчымыя адно без другога.

-- А як, на вашу думку, Беларусь хутка стане прававой дзяржавай?

-- Не, яшчэ не хутка станем мы прававой дзяржавай.

-- І чаго нам для гэтага не хапае?

-- Няблага было б перш за ўсё вызначыць, куды наогул мы ідзём і што будуем: нейкі сацыялізм з чалавечым тварам ці капіталізм. Хутчэй за ўсё, мы будуем капіталізм, але ў эканоміцы Беларусі, як ні ў адной рэспубліцы былога Савецкага Саюза, не рэалізуюцца рыначныя адносіны і не ламаюцца старыя. Аднак час рукамі нельга стрымаць, і мы ўсё ж прыплывём да нейкага берага. У Беларусі, хоць і вельмі марудна, змены будуць ісці ў двух накірунках: развіццё малога бізнесу, прадпрымальніцкай дзейнасці сярэдняга і ніжэйшага ўзроўню і паступовае раздзяржаўленне дзяржаўнай маёмасці. Калі законам усім формам уласнасці будзе дазволена развівацца аднолькава, адбудуцца зрухі ў эканоміцы. А эканоміка -- гэта той фундамент, на якім будуецца наша прававая дзяржава. Паралельна пойдуць працэсы прававога рэгулявання грамадскіх адносін па ўсіх напрамках, у тым ліку і ў сацыяльнай сферы, і ў культурнай. Сёння ж, якую б галіну жыцця рэспублікі мы ні ўзялі, усе яны дрэнна адрэгуляваны правам. А калі ўжо гаварыць аб праве, то ў нас няма і яшчэ не хутка будзе Канстытуцыя рэспублікі. Выйсце на першыя часы было б у прыняцці канстытуцыйнага заканадаўства. Напрыклад, канстытуцыйны Закон аб выбарах. Галоўнае ж, што характарызуе прававую дзяржаву, гэта магчымасць грамадзяніна атрымаць абарону ў судзе ў выпадку парушэння яго правоў. Кожны чалавек павінен мець магчымасць паскардзіцца ў суд і быць абароненым, незалежна ад таго, грузчык ён ці міністр.

-- Здаецца, мы ніколі не мелі такой магчымасці, і цяжка верыцца, што дажывём да светлых дзён...

-- На жаль, у нашай краіне ніколі такога не было, і невядома, калі будзе. Мы можам толькі спадзявацца на лепшы парламент, дзе будуць прадстаўлены ўсе слаі грамадства і які будзе дбаць аб правах чалавека. І калі будзе не толькі права, але і механізм яго рэалізацыі.

-- А міліцыя павінна абараняць правы грамадзян? Якія яна выконвае функцыі?

-- На жаль, міліцыю часцей за ўсё залічваюць да праваахоўных органаў, а гэта не зусім дакладна. Міліцыя перш за ўсё праваапрымяняльны орган, і яна абавязана ўмешвацца тады, калі парушаны правы ў адносінах да канкрэтнага чалавека або канкрэтным чалавекам.

-- Станаўленне нацыянальнай міліцыі яшчэ не адбылося, бо і часу на гэта было адпушчана нямнога. Але калі браць у ідэале: якой, на вашу думку, павінна быць наша нацыянальная міліцыя?

-- Пакуль сапраўды міліцыя, якую маем, мала чым адрозніваецца ад той, што была. Нават формы сваёй не мае, хаця напрацоўкі ёсць, і першыя хлопцы ходзяць у нацыянальнай форме. Але гэта форма. Што ж датычыцца зместу, то мы не хутка станем па зместу міліцыяй нацыянальнай. На маю думку, нацыянальная міліцыя камплектуецца нацыянальна-свядомымі кадрамі, якія рыхтуюцца з улікам нацыянальных умоў, добра ведае сваю гісторыю і родную зямлю, народ. І стаіць яна на варце законаў, прынятых беларускім парламентам, а не тых, што нам прыслалі з Масквы. Я ведаю, што на сённяшні дзень большасць супрацоўнікаў міліцыі не валодае роднай мовай альбо ведае яе дрэнна. Гэта першае і самае галоўнае, што адрознівае не ў лепшы бок беларускую міліцыю ад літоўскай, эстонскай і іншых. Па-другое, нацыянальная міліцыя павінна ведаць традыцыі, нормы маралі, этыкі, што вякамі складваліся і ўшаноўваліся ў беларускай супольнасці. Па-трэцяе, міліцыя нацыянальная павінна адчуваць душу свайго народа, ведаць яго культуру, адрозненне паміж насельніцтвам гарадскім і вясковым. І шмат яшчэ іншага павінна ведаць міліцыя, каб называцца нацыянальнай.

(Заканчэнне на 4-й стар.).

## У АРХІВАХ — ГІСТОРЫЯ НАРОДА



**Прайшло паўтара года, як на базе Цэнтральнага дзяржаўнага гістарычнага і былога Цэнтральнага партыйнага архіва быў створаны Нацыянальны архіў Беларусі. У ім захоўваецца больш за два мільёны спраў, у якіх адлюстравана беларуская гісторыя ад XIY стагоддзя да нашых дзён.**

**НА ЗДЫМКУ: намеснік генеральнага дырэктара архіва Ала ГАЛУБОВІЧ.**

(Заканчэнне фотарэпартажу на 8-й стар.).

*СЛОВА СЯБРАМ МАБ*

# АНГЛІЙСКІ ПАДАРОЖНІК ПРА КНІГІ Ф. СКАРЫНЫ Ў МАСКОВІІ

Дагэтуль адзінай падставай, каб меркаваць, што кнігі Ф. Скарыны пашыраліся ў Маскве ў XVI стагоддзі, з'яўлялася апублікаваная ў 1862 годзе аўстрыйскім гісторыкам Ю. Фідлерам інструкцыя польскага караля Жыгімонта Аўгуста (не пазней 1553 года). Паводле яе, нейкі падданы караля надрукаваў Святое Пісанне "рускай" (г. зн. старабеларускай) мовай і "падаўся ў Маскву", але там яго кнігі па загаду князя былі ў канцы 20-х гадоў "публічна спалены". Такім чынам, выходзіць, што выданні Скарыны тады не дайшлі да маскоўскага чытача. З таго часу аж да 1625 года, калі польскі гісторык Ш. Старавольскі засведчыў, што ён бачыў у Вялікай Расіі "многа кніг доктара Францішка Скарыны з Полацка", пра пашырэнне скарынаўскай Біблії ў Масковіі няма аніякіх звестак.

Які ж лёс кніг Скарыны ў Маскве пасля таго спальвання? Распаўсюджваліся яны там у XVI стагоддзі ці ўсё ж не змаглі пераадолець супраціўленне духоўных і свецкіх уладаў? Вядома ж, да прыкладу, што тагачасны расійскі дзяржаўны дзеяч і палітык князь А. Курбскі (1528--1583) лічыў выданні ўсходнеславянскага кнігадрукара ерэтычнымі. Аўтарытэтны расійскі даследчык Я. Неміроўскі падкрэслівае, што ў XVI стагоддзі "для артадаксальных маскоўскіх кніжнікаў (...) вялікі беларускі асветнік бачыўся вестуном ненавіснага лютэранства".

Мне здаецца, што часткова на пастаўленыя вышэй пытанні могуць, няхай і ўскосна, адказаць запісы англійскага дыпламата Джыльса Флетчара па выніках яго падарожжа ў Масковію ў 1588--1589 гадах, нядаўна апублікаваныя ў перакладзе на расійскую мову. У нататках гэтага уважлівага назіральніка, які ахарактарызаваў многія бакі жыцця Маскоўскай дзяржавы, мы сустракаем такое выказванне, незразумелае на першы погляд: "Ёсць у іх (маскавітаў. -- **А.К.**) шмат іншых няправільных думак адносна веры, гэтыя галоўныя заблуджэнні выкліканы часткова паданнямі (яны перададзены ім царквой Грэцкай), але асабліва няведаннем Святога Пісання". І далей ідуць вельмі важныя для нас словы: "Хаця апошняе ёсць у іх, на польскай мове (амаль падобнай да іх мовы за выключэннем некаторых слоў)" (с. 585).

Дык што гэта за польскае Святое Пісанне з такой дзіўнай мовай? Можа, гэта першая польская друкаваная Біблія Леапаліты (1561)? Ці выдадзеныя ў Беларусі польскамоўныя Бібліі: Радзівілаўская (Бярэсце, 1563), Сымона Буднага (Лоск, 1574)? Але ж усе яны надрукаваны лацініцай і на сапраўднай польскай мове. Значыць, слова "падобная" тут не падыходзіць, бо польская і расійская мовы вельмі адрозніваюцца -- як па алфавіту, так і па фанетыцы, лексіцы. Прыгадаем, што калі беларус, пасол Вялікага Княства Літоўскага Міхайла Гарабурда мог гаварыць з расійскім царом без талмача (перакладчыка), дык палякі (паслы Кароны) прыязджалі ў Маскву з перакладчыкамі ці гутарылі праз "царскага талмача", часцей за ўсё беларуса (у канцы XVI стагоддзя ім быў работнік Пасольскага прыказа Ф. Газвінскі). Да таго ж каталіцкая і пратэстанцкая літаратура з'явіцца ў Маскве толькі праз стагоддзе, калі, па сведчанні Лазара Барановіча, які добра ведаў тагачасны "Маскоўскі двор", "царскі сінкліт" пачне чытаць "кнігі і гісторыі ляцкія ў сладасць".

(Заканчэнне на 4-й стар.).

# ПАДЗЕІ ЛЮДЗІ ФАКТЫ

ПАРЛАМЕНЦКІ ТЫДЗЕНЬ

## ХТО КОЛЬКІ ЎКРАЎ

**Мінулы тыдзень у Вярхоўным Савеце Беларусі выявіў на ўсю рэспубліку (пасяджэнні сесіі трансліраваліся па радыё) увесь інтэлектуальны патэнцыял нашага парламента. А лакмусавай паперай тут быў даклад старшыні Часовай камісіі Вярхоўнага Савета дэпутата А.Лукашэнкі аб карупцыі, якая раз'ядае нашы ўладныя структуры.**

**Праблема, як выявілася, сур'ёзная, небяспечная і трывожная, але замест таго, каб абмяркоўваць яе, пачалося абвінавачванне адзін аднаго: хто колькі ўкраў. Урэшце дэпутаты перасварыліся, як на калгасным сходзе, бліскуча паказаўшы народу ўзровень дзяржаўнага мыслення нашага парламента.**

**Кончылася тым, што 16 снежня Старшыня Вярхоўнага Савета Станіслаў Шушкевіч злёг у бальніцу -- гіпертанічны крыз.**

ЗАПЫТ ПАСОЛЬСТВА ЗША

## ГАНДЛЮЕМ ЗБРОЯЙ

**Пасольства ЗША ў Мінску звярнулася ў МЗС Беларусі з просьбай даць дадатковую інфармацыю па факту затрымання ў раёне Міжземнага мора партыі зброі, закупленай у Беларусі.**

**Са спасылкай на Савет Міністраў кампетэнтныя органы Беларусі сцвярджаюць, што продаж зброі не супярэчыў законам Рэспублікі Беларусь.**

**Як растлумачыў карэспандэнту БЕЛІНФАРМа сакратар камісіі па экспартнаму кантролю пры Савеце Міністраў Рэспублікі Беларусь Уладзімір Харашылаў, кантракт быў заключаны паміж рэспубліканскім знешнегандлёвым прадпрыемствам "Белзнешпрамсервіс" і амерыканскай фірмай "Кроўфард інтэрнэшнл армс інк". Згодна з гэтым дакументам партыя зброі прызначалася Рэспубліцы Перу. Запыт пасольства ЗША ў МЗС, паводле слоў Харашылава, датычыць праверкі законнасці дзейнасці амерыканскай фірмы. Да беларускага боку прэтэнзій няма.**

РАДЫЕФОБІЯ

## ВАКОЛ ІГНАЛІНСКАЙ АЭС

**Пасля вяртання з Літвы міністр энергетыкі Даніі І. С'юрфен сказаў журналістам, што за дзве гадзіны знаходжання на Ігналінскай АЭС ён атрымаў такую дозу радыяцыі, як за 2 дні ў натуральным фоне, і што электрастанцыю трэба закрываць, таму што яна ніколі не будзе адпавядаць заходнім стандартам бяспекі.**

**Аднак літоўскія спецыялісты лічаць, што міністр мог атрымаць на станцыі дозу не больш чым 0,5 мБэра, тады як дапушчальная норма для персаналу -- 20 мБэр за змену. Гэтая норма адпавядае існуючым стандартам. Нагадаем, што Ігналінская АЭС знаходзіцца амаль што на граніцы з Беларуссю.**

НЕБЯСПЕЧНАЯ ПРАЦА

## ПРЭМІЯ ЛЕЙТЭНАНТУ

**457 узрываенебяспечных прадметаў часоў Вялікай Айчыннай вайны, што засталіся на тэрыторыі Магілёўскай вобласці, знайшоў і абясшкодзіў лейтэнант Анатоль Рымашэўскі. За гэты ратны подзвіг Міністэрства абароны Беларусі прэміравала сапёра 1 мільёнам рублёў.**

**Самай буйной "знаходкай" быў склад зброі каля вёскі Кузькавічы Быхаўскага раёна. Тут у бліндажы захоўваліся 42 артылерыйскія снарады, 217 мін і 61 граната.**

**Усяго ж сапёры гэтага падраздзялення Магілёўскага гарнізона сёлета выявілі і абясшкодзілі амаль шэсцьсот штук розных боепрыпасаў, што засталіся ў зямлі з часоў Айчыннай вайны.**

СУПРАЦОЎНІЦТВА

**У французскім горадзе-пабраціме Гомеля Клермон-Ферране адкрыты рускі магазін "Калінка". Там пакупнікам прапаноўваюць розныя тавары ў рускім нацыянальным стылі. Да свята Калядаў у магазіне адкрываецца і аддзел беларускіх тавараў. Адным з пастаўшчыкоў іх стала Добрушская вытворчая фірма "Фарфор". Тут распрацаваны арыгінальныя віды прадукцыі - дэкаратыўныя блюды з беларускай сімволікай, наборы чайнікаў "Лявоніха" і іншыя вырабы.**



**НА ЗДЫМКУ: жывапісцы Валянціна ЧЫРКІНА і Генадзь МАЛАШЭНКА рыхтуюць посуд для адпраўкі ў Францыю.**

*"Палітычная сістэма ў Беларусі мае патрэбу ў сур'ёзнай рэформе. Я пачаў бы яе з "нізоў". Давайце ўявім, што праз месяц -- выбары ў Вярхоўны Савет. Людзі, можа быць, прыйдуць іншыя, але ці адбудуцца якасныя, істотныя змены ў складзе, магчымасцях, палітычных пазіцыях тых, хто будзе абраны? Пад "істотным" я разумею прафесійны парламент, які сканцэнтруе інтэлектуальны патэнцыял грамадства. Наўрад ці гэта адбудзецца, калі выбары пройдуць сёння. Самая моцная ў нас цяпер частка грамадства -- тыя, у каго ўлада. Людзі. Яны і будуць абраны..."*

*Георгій ТАРАЗЕВІЧ, намеснік міністра замежных спраў Рэспублікі Беларусь.*

ЭКАЛОГІЯ

## ЧАЛАВЕК І ПРЫРОДА

**Працяглась жыцця ў Беларусі цяпер фактычна адна з самых кароткіх у свеце. На думку акадэміка-сакратара Акадэміі навук Беларусі, дырэктара Інстытута праблем выкарыстання прыродных рэсурсаў і экалогіі І. Ліштвана, гэта звязана не толькі з вынікамі катастрофы на ЧАЭС. Мы ўжо настолькі ўмяшаліся ў біялагічныя працэсы, што адбываюцца ў прыродзе, што далейшае развіццё цывілізацыі патрабуе асобых падыходаў. Напрыклад, асушаючы балоты, ніхто не задумваўся аб тым, што наносіцца шкода атмасферы: адзін гектар балот па паглынанню шкодных кампанентаў з атмасферы раўназначны 7 гектарам лесу. Праблема чысціні атмасферы асабліва важная цяпер, калі суцэльным патокам у рэспубліку пайшлі спісаныя на Захадзе аўтамабілі.**

ВЕСТКІ АДУСЮЛЬ

МІНІСТЭРСТВА гандлю да гэтага часу не заплаціла сялянам 13 мільярдаў рублёў за малако, у той час як Нацыянальны банк ячшэ ў другім квартале выдзеліў на гэтыя мэты 50 мільярдаў рублёў. Грошы наш беларускі гандаль пусціў на набыццё замежных аўтамабіляў і спіртных напіткаў.

КАЛЯ 600 італьянскіх салдат і афіцэраў, з якіх 300 расстраляны нямецкімі фашыстамі за адмаўленне прыняць удзел у карных аперацыях супраць мірных жыхароў Беларусі, спачываюць у нашай зямлі. Італьянская Рэспубліка гатова прадаставіць Беларусі каля 1 мільярда долараў для догляду за магіламі сваіх суайчыннікаў і перазахавання на радзіме італьянскіх ваеннаслужачых.

370 ТЫСЯЧ доз вакцыны -- такі памер гуманітарнай дапамогі, аказаны Беларусі ЮНІСЕФ. Яна пойдзе на прышчэпкі супраць дыфтэрыі і іншых хвароб. За дзесяць месяцаў гэтага года ў Беларусі адзначана 80 выпадкаў дыфтэрыі.

БЫЛЫ Старшыня Прэзідыума Вярхоўнага Савета БССР, а цяперашні намеснік міністра замежных спраў Рэспублікі Беларусь Георгій Таразевіч балаціруецца ў Вярхоўны Савет. На выбарах у Жодзіне, якія адбыліся 12 снежня, Таразевіч выйшаў пераможцам сярод трох прэтэндэнтаў, набраў 53 працэнты галасоў. Але ў Вярхоўны Савет не прайшоў: у выбарах прынялі ўдзел толькі 45 працэнтаў выбаршчыкаў.

ДЭФІЦЫТ дзяржаўнага бюджэту Беларусі на 1993 год, мяркуецца, складзе 550 мільярдаў рублёў. На чарнобыльскую праграму выдаткавана амаль 368 мільярдаў, на субсідыі сельскай гаспадарцы 200 мільярдаў, столькі ж рублёў на ўтрыманне арміі і праваахоўных органаў.

ІНТЭРНАЦЫЯНАЛ

## ЗА КРАТАМІ

**У Беларусі асуджаныя грамадзяне краін далёкага замежжа ўтрымліваюцца ў асноўным у калоніі УЖ 15/1, што знаходзіцца ў Мінску. Пакуль "імпартных" зэкаў усяго пяцёра: 2 грамадзян ФРГ і па аднаму з Іспаніі, Пакістана і Ізраіля. Спектр крымінальных артыкулаў, па якіх у свой час праходзілі гэтыя асобы, даволі шырокі -- пачынаючы ад незаконнага пераходу мяжы і канчаючы гвалтаваннем і гандлем наркотыкамі.**

**Акрамя таго, у двух спецыяльных атрадах гэтай калоніі знаходзяцца 49 грамадзян краін блізкага замежжа: 15 расіян, 8 армян, 7 украінцаў, 6 узбекаў, 5 азербайджанцаў, 3 малдаваніны, па 2 чалавекі з Грузіі, Эстоніі, Казахстана і адзін -- з Туркменіі.**

З ПРЭС-КАНФЕРЭНЦЫІ

## ГЕРОІ СВАЕ І ЧУЖЫЯ

Марудна знікаюць белыя плямы з карты Беларусі. Багата іх яшчэ, і гэта нягледзячы на тое, што шмат гістарычных кніг і брашур выдадзена за апошнія гады. Што мы ведаем пра вызвольнае паўстанне 1794 года ў Беларусі, 200-я ўгодкі якога грамадскасць краіны адзначыць упершыню ў наступным годзе?

Па ініцыятыве Беларускага народнага фронта "Адраджэнне" створаны грамадскі арганізацыйны камітэт, у які ўжо на гэты час увайшлі 27 арганізацый і суполак, уключаючы Акадэмію навук, Таварыства беларускай мовы, Міжнародную асацыяцыю беларусістаў. Мяркуецца наладзіць шэраг мерапрыемстваў па ўшанаванню памяці паўстанцаў: пабудаваць капліцу з помнікам загінуўшым, адкрыць мемарыяльныя дошкі, выпусціць маркі, канверты, паштоўкі і г.д. З гэтай жа мэтай аргкамітэт будзе наладжваць навуковую акадэмію, прысвечаную гістарычнай падзеі.

Каб прыцягнуць увагу грамадскасці, на мінулым тыдні сябры аргкамітэта правялі першую прэс-канферэнцыю, у якой бралі ўдзел прадстаўнікі польскага пасольства, Міністэрстваў абароны, адукацыі і культуры, Польскага і Беларускага радыё і тэлебачання, шматлікія прадстаўнікі прэсы. З невялікімі прамовамі выступілі навукоўцы Уладзімір Емельяновіч, Іван Саверчанка, Адам Мальдзіс, старшыня БЗВ Мікола Статкевіч. Вяртанне беларускаму народу яго сапраўднай гістарычнай памяці -- вось што непакоіла і хвалявала ўсіх удзельнікаў прэс-канферэнцыі.

Гісторыя вельмі жорстка абышлася з нашым народам, нашай дзяржавай. Здаецца, усё разбурана, раструшчана. Забытыя асобныя падзеі і героі доўгі час увогуле шальмаваліся і ганьбіліся. Яшчэ з падачы царскай гістарыяграфіі паўстанне 1794 года разглядалася як выключна польскае. Трэба адзначыць, што гэты навукова неабгрунтаваны і ў пэўных гістарычных варунках зпапітызаваны погляд на падзею дажыў і да нашых дзён. Прамоўцы адзначылі, што ні па сваёй тэрыторыі, ні па сваіх удзельніках паўстанне нельга назваць выключна польскім. Нават і польскія навукоўцы гэтага не могуць адмовіць. Яно ахапіла значную частку Беларусі: Браслаўшчыну, Віленшчыну, Міншчыну, Гродзеншчыну, а адзін з цэнтраў падрыхтоўкі да паўстання знаходзіўся аж у Хойніках, на Гомельшчыне. Толькі на тэрыторыі Беларусі на працягу 6 месяцаў налічвалася ад 30 да 40 тысяч паўстанцаў. Кіраўніком паўстання быў прызначаны наш суайчыннік Андрэй Тадэвуш Касцюшка (нарадзіўся ў в. Сяхновічы Кобрынскага павета). Змагар за свабоду народаў Паўночнай Амерыкі і Усходняй Еўропы, ён да гэтага часу застаецца амаль што невядомай асобай на сваёй Бацькаўшчыне. Касцюшка не толькі герой Польшчы, а і наш агульны гонар.

І вось тут, згадваючы імя Тадэвуша Касцюшкі, нельга не назваць імя іншага героя гэтага часу -- Аляксандра Суворава. Мяркую, яно добра вядома маім сучаснікам, але ж не вядома роля, якую ён адыграў у гісторыі нашай дзяржавы. У 35 гарадах і 24 мястэчках яго імем названы вуліцы, таксама 23 калгасы, дзейнічае музей Суворава ў Кобрыне, а ў Мінску ёсць Суворыўскае вучылішча. Ніхто не будзе спрачацца, што Суворыў выдатны палкаводзец. Больш таго, ён быў выдатны выканаўца планаў Кацярыны II -- пашырэння межаў Расіі. Дык ці не за бязлітаснае здушэнне паўстання Тадэвуша Касцюшкі так шанаваў яго бальшавіцкі ўрад? Менавіта ж за гэта, за пралітую беларускую кроў атрымаў ён ад Кацярыны II чын фельдмаршала і Кобрынскую воласць з 13 279 душамі "в вечное и потомственное владение". Але ж трэба ўсё ж такі мець гонар і навучыцца адрозніваць, хто наш нацыянальны герой, а хто герой іншай дзяржавы. Калі мы не будзем паважаць сябе самі, то хто ж тады будзе паважаць нас?

"Гісторыя наша пакуль што мёртвая, але яна напоўнена жывымі людзьмі, яна дыхае, -- сказаў на прэс-канферэнцыі Іван Саверчанка. -- Захаваліся апісанні, фотаздымкі, засталося толькі ўсё гэта напоўніць зместам і вярнуць асобу".

Паўстанне забыта. Яго героі таксама або забыты, або размеркаваны часам па іншых краінах, іншых падзеях. Але вядома, што ў архівах захаваліся спісы паўстанцаў, іх можна проста надрукаваць -- гэта і будзе выхад на нашу рэчаіснасць. Чытаючы іх, магчыма, людзі знойдуць імёны сваіх дзядоў і прадзедаў, і тады памяць вернецца да нас. Успомніць яны ўсё, што было вымазана з імі, а не як у вядомай савецкай песні, толькі "все, что было не со мной -- помню".

**Таіса БАНДАРЭНКА.**

СТАЎ ГІСТАРЫЧНЫМ ПОМНІКАМ

# КАНАЛ ІМЯ АГІНСКАГА

Ёсць у нашага пісьменніка Яраслава Пархуты ў яго кнізе "Зямля бацькоў нашых" такія згадкі пра паноў Агінскіх:

"Майго бацькі бацька расказваў, -- гаворыць дзед Лукаш, -- як гэты канал да ладу даводзілі. Яму тады за семдзесят було. Казаў, чатыры дні ў тыдзень на пана працавалі, тачкамі зямлю вазілі. З усіх сёл нашага брата палешука зганялі. А работай кіравала пані -- Агыньская звалася. Казаў яшчэ, не аднаго ў магілу загнала непасільнай працай. Во якая пані була!"

Гэта ўспамін пра тое, як будаваўся канал імя Агінскага.

Памяць народа, аднак, акрамя жорсткай эксплуатацыі магнатамі Агінскімі свайго народа, данесла для гісторыі яшчэ і тое, што яны былі і мецэнаты, і стваральнікі... Так-так, стваральнікі і будаўнікі. Каб абудзіць краіну, каб зрабіць яе багацейшай, трэба было жыць упоравень з векам. Вось чаму пасля збудавання гідратэхнічнага комплексу паміж рэкамі Ясельда (прыток Прыпяці) і Шчарай (прыток Нёмана) канал атрымаў назву Агінскага. У той час Міхаіл Казімір Агінскі -- буйны і ўплывовы магнат -- быў гетманам Вялікага Княства Літоўскага, Рускага і Жамойцкага. Атрымаў гэту назву канал не толькі таму, што гэта была яго ініцыятыва і воля, што гэтая штучная водная сістэма стваралася на яго сродкі, а яшчэ больш, што ён унёс у яе сваё сэрца і душу.

Некалькі слоў пра рэкі. Шчара, якая выцякае з Калдычэўскага возера, што знаходзіцца на паўднёвым схіле Навагрудскага ўзвышша, мае даўжыню 305 кіламетраў і працякае побач з Выгонашчанскім возерам. А на Ясельдзе знаходзяцца Бяроза, Высокае, Тышкавічы, Моталь і іншыя населеныя пункты. Агульны працяг гэтай ракі -- 230 кіламетраў, а бярэ яна пачатак ля вёскі Труханавічы Пружанскага раёна, працякае цераз Спораўскае і Мотальскія азёры. Дык вось паміж гэтымі рэкамі знаходзіцца самае буйное ў Брэсцкай вобласці Выгонашчанскае возера, якое каналамі і злучана цераз Шчару і Ясельду з двума марамі -- Балтыйскім і Чорным. Вось у чым было вялікае значэнне Агінскага канала.

Пачаткам злучэння рэк Ясельды і Шчары стаў 1767 год. А канец гэтага незвычайнага будаўніцтва прыпаў на 1783 год. Якраз сёлета споўнілася роўна 210 гадоў каналу Агінскага.

Што ў тыя часы ўяўляла гідратэхнічнае збудаванне Агінскай сістэмы? Амаль уся яна была зроблена з дрэва. У ёй было 12 суднаходных плацін і 10 аднакамерных суднаходных шлюзаў. Асноўнымі плывучымі сродкамі на ім былі платы, але калі-нікалі праходзілі па каналу і судны даўжынёй не больш 40 метраў і шырынёй 5,25 метра.

Асноўныя характарыстыкі канала паміж возерам і ракой Шчара: даўжыня па дну 7--11 метраў; па паверхні 12--16 метраў; глыбіня вады 0,7 метра.

Сам Агінскі канал мае даўжыню па ўсім працягу -- 54 кіламетры, без Выгонашчанскага возера -- 50,5 кіламетра. Пачатак ён бярэ на поўнач ад вёскі Мерчыцы.

У першай палове XIX стагоддзя Агінскае гідратэхнічнае збудаванне было рэканструявана -- былі ўзведзены 32 плаціны, прычым 14 з іх на рацэ Шчара. Пасля гэтага воды комплекс, галоўным чынам, быў прызначаны для вывазу лесу.

Праз многа гадоў наш волат духу Уладзімір Караткевіч у сваёй кнізе "Зямля пад белымі крыламі" адзначаў: "А пакуль на беразе неглыбокага, дужа чыстага Агінскага канала, які павольна струменіць свае воды, сядзяць, скажам, у Слоніме хлапчукі з вудамі, цягаюць плотак і спрачаюцца, на што лепей лавіць галаўня ў ліпені".

У першай сусветнай вайне ўсе гідратэхнічныя збудаванні былі разбураны, потым зноў рэканструкцыя, па вадзе пайшоў лес, пачаліся пасажырскія перавозкі паміж Пінскам і Целяханамі.

Вялікая Айчынная вайна канчаткова "дабіла" канал. Сёння ён не дзейнічае. Як пішуць некаторыя краязнаўцы, канал імя Агінскага страціў сваё гаспадарчае значэнне і стаў гістарычным помнікам.

**Міхась МАЛІНОЎСКІ.**

# МЁРЗНУЦЬ НЕ ТОЛЬКІ ЛЮДЗІ

...Над замёрзлай сажалкай пакружылася чародка качак, знізілася ледзь не да самага лёду і, не знайшоўшы чыстай вады, набрала вышыню, знікла.

Аднекуль з'явілася пушыстая вавёрка. Спусцілася з высокага дрэва на зямлю, бясстрашна накіравалася насустрач. Відаць, разлічвала на гасцінец. Але я толькі вінавата развёў рукамі: прабач, даражэнькая, не здагадаўся захапіць. Вёрткі звярок гэта хутка зразумеў. Праз момант сігануў ізноў на дрэва і, пераскокваючы з галінкі на галінку, накіраваўся ў бок парку Чэлюскінцаў. Там заўжды знойдзецца чым падласавацца -- нацыяны спяшаліся праз парк людзі ў бок завода імя Вавілава. Той-сёй ішоў не з пустымі рукамі. Адзін пакіне пад дрэвам кавалачак хлеба, другі з рук дасць вавёрцы семачак ці арэхаў.

Дарэмна ходзіць па клумбах, прыцярушаных тонкім слоем снегу, чорная варона: пажывіцца няма чым. Пуста, няўтульна і вельмі холадна. Амаль увесь лістапад маразы стаяць пад дваццаць градусаў. У батанічным садзе ніводнага чалавека. Жыццё нібы спынілася.

-- Не спынілася, а перабралася пад дах! -- у майстэрню, канюшню, навуковыя лабараторыі, цяпліцы, -- кажа дырэктар Цэнтральнага батанічнага сада Яўген Сідаровіч, запрашаючы зрабіць экскурсію па тэрыторыі сваёй гаспадаркі.

Пакуль знайшліся "экскурсаводы" -- работнікі лабараторый, цяпліц, Яўген Антонавіч расказвае, чым займаюцца ў батанічным садзе ў канцы восені (менавіта тады мы наведалі сад).

-- Самымі звычайнымі, паўсядзённымі справамі, -- адказвае на наша пытанне дырэктар. -- Турбот хапае: рамантуем тэхніку, рыхтуем насенне для пасеву не толькі кветак, але і звычайных зерневых. Скажам, аўса -- наша гаспадарка мае 10 коней, трэба клапаціцца і аб іх, бо вясной, летам без іх нам не абысціся. І, вядома, праводзім навуковыя работы.

Так, гэта на першы погляд здаецца, што ў батанічным садзе коні, тэхніка не галоўнае, а нешта дапаможнае. Але ж як тады без іх апрацаваць плошчу 15 000 квадратных метраў?! Уручную не справішся. І калі сена, авёс яшчэ можна нарыхтаваць сваімі сіламі на месцы, то як з металам, дэталямі да тэхнікі?

-- У батанічнага сада добрыя адносіны з многімі прадпрыемствамі Мінска, -- гаворыць дырэктар. -- І трактарны, і аўтамабільны, і іншыя заводы заўжды прыходзяць на дапамогу...

-- Відаць, не бясплатна? -- пытаемся ў Яўгена Антонавіча.

-- Форма разлікаў простая, -- адказвае ён, -- прадукцыя за прадукцыю. Атрымалі, напрыклад, метал, даём узамен кветкі. Лічыце, што ніводзін дзень нараджэння, юбілей не абыходзіцца без іх...

Галоўны тавар батанічнага -- кветкі. Яны патрэбны не толькі для "бартэрных" здзелак. Іх яшчэ і прадаюць жыхарам сталіцы.

-- Для мінчан, практычна, няма праблем з набыццём у нас кветак, -- гаворыць Я. Сідаровіч. -- Крыху цяжэй толькі на свята, тут ужо мала на ўсіх не хапіць. З кожным годам высаджваем іх больш і больш. Вось і ў наступным годзе да свята 8-га Сакавіка запланавалі пасадзіць 500 000 штук.

-- Мы чулі, што мяркуеце прадаваць не толькі кветкі.

-- Так, лічу, што можам вырошчваць на продаж і цытрусы. Скажам, лімоны. Але гэта -- на будучыню. Праўда, галоўная наша задача -- навуковая работа. Мы даглядаем звыш 10 тысяч раслін, з іх 2 тысячы -- трапічныя і субтрапічныя. Як яны паводзяць сябе ў нас, як пашыраць геаграфію іх развядзення, як вырошчваць у пакаёвых умовах -- вось далёка не поўны пералік нашых даследаванняў. А яшчэ мы маем практычны матэрыял для вучэбных устаноў. Вось чаму да нас часта прыходзяць студэнты не толькі на экскурсію, а каб пазнаёміцца з флорай далёкіх краін.

Паслухаўшы дырэктара батанічнага сада, можна падумаць, што і праблем тут не існуе. Але гэта зусім не так. Проста дырэктар і яго супрацоўнікі ўмеюць знаходзіць выйсце з многіх складаных становішчаў.

Калі на двары пад мінус дваццаць, то праблемай нумар адзін становіцца абагрэў памяшканняў. Напрыклад, у кабінеце дырэктара сада нельга было знаходзіцца і пяці мінут без паліто. Што ўжо казаць пра розныя там пальмарыі, лабараторыі і цяпліцы з трапічнымі і субтрапічнымі раслінамі. Тут замест нарматыўных 15 градусаў было каля... 8.

-- Ва ўсім горадзе, -- тлумачыць Яўген Антонавіч, -- адчуваецца энергетычны крызіс. Для нас, як і для іншых устаноў, не робіцца скідак ці пабламак. І выйсце давodзіцца шукаць самім: у вытворчых памяшканнях назапашваем дадатковыя крыніцы цеплавой энергіі. А гэта вялікі перарасход электрычнасці, што абыходзіцца нам у немалую капеечку. Але што рабіць, калі справа тычыцца дзяржаўнага багацця: Цэнтральны батанічны сад адзіны ў Беларусі.

**Яўген ТУРАЙКЕВІЧ.**





**НА ЗДЫМКАХ: у пальмарыі загадчыца лабараторыі Н. ГЕТКО; супрацоўнікі сада І. ЗАХАРАЎ (злева) і А. АЛЯХНО кантралююць тэмпературу паветра ў цяпліцы, дзе растуць цытрусавыя.**

**Фота Віктара СТАВЕРА.**

# ЦІ ДОМА БЕЛАРУС У СІБІРЫ?

Усякая дарога пачынаецца з першага кроку. Свой першы крок на сібірскай зямлі беларускія будаўнікі і транспартнікі зрабілі яшчэ ў маі 1980 года. Узамен паставак нафты і газу на Беларусь яны аказваюць расіянам дапамогу ў асваенні нафтавых промыслаў, ствараюць інфраструктуру ў заходнесібірскім рэгіёне. За трыццаць гадоў беларусамі пракладзена звыш 800 кіламетраў аўтамабільных дарог у складанейшых умовах цюменскіх балот. Іх рукамі ўзводзіўся горад Лангепас. Зараз пачынаецца будаўніцтва цагельнага завода магутнасцю пяць мільёнаў штук у год. У наступным годзе ён павінен ужо даць першую прадукцыю. У планах за цагельным -- будаўніцтва заводаў па выпуску мэблі і рыбных кансерваў. Многа зроблена і робіцца нашымі землякамі, здаецца, зарэкамендавалі сябе добра. Але хапае і акалічнасцяў, якія азмрочваюць рабочы настрой выхадцаў з Беларусі.

Па адных даных, у Цюменскай вобласці -- 10 тысяч беларусаў, па другіх звестках -- каля 40 тысяч. У любым выпадку -- многа. Але свайго выдання для беларусаў на роднай мове ў Сібіры няма. Газета "Беларусь в Западной Сибири", якая выходзіць у Мінску пад дахам саўмінаўскай газеты "Рэспубліка", трапляе толькі ў адміністрацыйныя будынкі трэстаў, будупраўленняў, якія падначалены трэсту "Белнафтадарбуд". Матэрыялы на вытворчую тэматыку, што і казаць, цікавыя, ёсць неабходная юрыдычная кансультацыя. Але тыраж газеты абмежаваны: чатыры тысячы экзэмпляраў. Да таго ж, як удалося высветліць, да рабочых яна проста не даходзіць: то прыходзіць цягнікам праз месяц пасля выхаду ў свет нумара газеты, то няма каму званіць яе распаўсюджваннем, ды і матэрыялы ў ёй пераважна на рускай мове. У кіёскі "Роспечати" яна ўвогуле не трапляе. Чым жа выхадцы з Беларусі горшыя за ўкраінцаў, якія пастаянна чытаюць сваю газету на роднай мове "Украинцы на Поўначы", бо выходзіць яна ў горадзе Сургуце? Раней хоць падпісацца можна было на беларускую перыёдыку. Але на той момант -- канец верасня 1993 года, калі я цікавіўся наконт падпіскі ў начальніка аддзела падпіскі федэральнага паштовага вузла Ніжнявартаўскага раёна, выданні з Беларусі не былі ўключаны ні ў адзін з каталогаў. Хоць, дарэчы, як адзначалася, попыт на іх ёсць заўжды. Асаблівай папулярнасцю карыстаўся штотыднёвік "Сем дней" і іншыя газеты.

І хоць Беларусь увекавечана ў назве аднаго з пасёлкаў -- Беларускі, культурная сувязь пасланцоў рэспублікі са сваёй гістарычнай радзімай не павінна гэтым абмяжоўвацца. Дзесьці яшчэ толькі ў планах урада выкладанне тут беларускай мовы. На жаль, не праяўляе асаблівай увагі да патрэб суайчыннікаў Міністэрства культуры Беларусі. Прыехаць жа на радзіму таксама вялікая праблема: білет каштуе многія тысячы рублёў.

Як ні прыкра, але нашы суайчыннікі адчуваюць сябе пасынкамі на чужой зямлі.

**Пётр ЖЭБРАК.**

# ЯКОЙ ПАВІННА БЫЦЬ МІЛІЦЫЯ, КАБ НАЗЫВАЦЦА НАЦЫЯНАЛЬНАЙ

(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).

-- Раней савецкі міліцыянер атрымліваў вельмі нізкую заработную плату, і ў яго не было стымулу трымацца за сваё месца і сумленна выконваць свае абавязкі. Ці ёсць стымул працаваць, быць адданым справе ў работнікаў міліцыі сёння?

-- Кажуць, што стымул -- гэта вялікі дрын, якім паганялі валоў. Дык матэрыяльны стымул -- добры дрын, каб прымусіць супрацоўніка шанаваць сваё месца. У параўнанні з іншымі рэспублікамі былога СССР, горшае, чым наша, матэрыяльнае забеспячэнне мае толькі міліцыя на Украіне. Але справа не толькі ў зарплаце. Мы надзвычай слаба забяспечаны тэхнічна, бо тое, што мелі, устарэла, няма нават аўтамабільнага транспарту ў дастатковай колькасці, не хапае бензіну.

-- Калі ўжо ў міліцыі няма бензіну, дык у каго ён ёсць?

-- На жаль, няма бензіну ў міліцыі, няма ў "Хуткай дапамогі". Вось у такіх умовах адбываецца наша станаўленне.

-- Спадзяюся, што пра навуковую падрыхтоўку міліцэйскіх кадраў вы, Іван Ігнатавіч, можаце расказаць нешта суцяшальнае.

-- Раскажу пра акадэмію, якая з'яўляецца буйным навукова-педагагічным цэнтрам. Тут рыхтуюцца не толькі работнікі для асноўных службаў міліцыі, органаў унутраных спраў, але кадры навуковых супрацоўнікаў. Маем сваю ад'юнктуру, дактарантуру, інстытут саіскальніцтва. Мы поўнасцю адмовіліся ад расійскіх школ міліцыі, ад магчымасці рыхтаваць там за вялікія грошы навуковыя кадры.

Хацеў бы адзначыць, што на грамадскіх пачатках у нас створана кафедра правоў чалавека, якую я ўзначальваю.

-- А чаму на грамадскіх пачатках?

-- Пакуль што няма сродкаў, але мы лічым існаванне такой кафедры неабходным. Немагчыма было ўявіць раней, каб міліцыя ўзялася за абарону правоў чалавека. У яе дзейнасці часта здараецца, што яна сама фактычна парушае гэтыя правы, хоць фармальна паступае па закону. Нядаўна мы сустрэліся з Мэцью Кахане, гэта прадстаўнік ААН у Беларусі, і яго намеснікам Ткачуком. Яны выказалі нам падзяку, што мы ўзяліся за гэту справу, і абяцалі дапамогу тэхнікай, арганізацыйна, літаратурай. Мы маем ужо і накірункі работы кафедры.

-- І што гэта за накірункі?

-- Гэта ўключэнне ў вучэбна-выхаваўчы працэс дакументаў ААН і праваахоўных арганізацый па правах чалавека.

-- Мы раней наогул не ведалі пра свае правы, і міліцыя не цікавілася, якія правы грамадзян яна павінна ахоўваць.

-- Можа хто і цікавіўся для сябе, але сказаць, што гэта было асноўнай ідэяй дзейнасці міліцыі, -- такога не скажаш, бо мы нават не ведалі галоўных дакументаў па правах чалавека. "Усеагульнай дэкларацыі правоў чалавека" не ведалі.

-- Іван Ігнатавіч, вы гаварылі, што цяпер Беларусь не пасылае сваіх выхаванцаў на вучобу ў Маскву, і ад выкладчыкаў з Расіі акадэмія міліцыі адмовілася. А хто выкладае такія дысцыпліны, як гісторыя Беларусі, беларуская мова?

-- Сёння прадметы, якія тычацца гісторыі Беларусі, гісторыі дзяржавы і права Беларусі, многія іншыя прадметы агульнаадукацыйнага, агульнадзяржаўнага, агульнаправавога плана выкладаюцца на беларускай мове і выкладчыкі -- беларусы.

Беларуская мова выкладаецца пакуль на двух курсах, і ёсць факультатыўны курс для выкладчыкаў. З цягам часу мы будзем гатовы ўсе дысцыпліны выкладаць на беларускай мове.

-- Скажыце, калі ласка, на якой падставе акадэмія міліцыі прымае ўдзел у законатворчасці?

-- Паколькі акадэмія падпарадкоўваецца рэспубліцы і ўваходзіць у структуру Міністэрства ўнутраных спраў, з'яўляецца элементам усёй структуры кіравання, то па заяўках прадстаўнічых органаў улады і кіруючых органаў мы альбо робім экспертызу праектаў, падрыхтаваных Міністэрствам юстыцыі, БДУ, самім Вярхоўным Саветам ці Саветам Міністраў, альбо па іх заказу рыхтуем праекты законаў.

Навукоўцамі акадэміі падрыхтаваны праект крымінальна-працэсуальнага кодэксу, альтэрнатыўны праект крымінальнага кодэксу, шмат нашых прапаноў увайшло ў праект грамадзянскага кодэксу. Многія праекты прайшлі ўжо апрабацыю і падтрыманы ў Саўміне і Вярхоўным Савеце, як, напрыклад, Закон аб аператыўна-вышуковай дзейнасці.

-- А ў чым яго адметнасць?

-- А ў тым, што ён першы прысвечаны той самай дзейнасці, якая ад грамадзян і былога Саюза, і нашай рэспубліцы заўсёды заховалася ў тайне. Баяліся, што людзі не зразумеюць яго, а аказалася, што зразумелі і падтрымалі, бо кожнаму разумнаму чалавеку ясна, што са злачыннасцю, больш таго, са скрытай злачыннасцю нельга змагацца адкрытымі метадамі. Нельга следчым шляхам выявіць усе факты злачыннай дзейнасці, сувязі злачынцы. А сродкі, што стагоддзямі прымяняюцца ва ўсіх дзяржавах, трэба было ўзаконіць і ў нас.

-- Што тут маецца на ўвазе?

-- Сачэнне за злачынцам, праслухоўванне тэлефонных размоў.

-- Вы хочаце сказаць, што ў нас раней не праслухоўваліся тэлефонныя размовы?

-- Усё было, але казалі, што няма. Цяпер усё ўзаконена. І, сустракаючыся з грамадзянамі, мы гаворым ім пра гэта адкрыта.

-- Хацелі быць святымі, але толькі кампраметавалі сябе, гаварылі адно, а рабілі зусім іншае.

-- Кампраметавалі, канечне. Да таго ж супрацоўнікі вышукова-аператыўнай службы адчувалі сябе няёмка, бо пытанні права сутыкаліся з праблемамі этыкі. Варта было адкрыта сказаць, што мы будзем парушаць правы людзей, але толькі ў адносінах тых, хто ўжо парушыў закон.

-- Вось мы з вамі і вярнуліся да таго, з чаго пачыналі. Нам неабходна прававая дзяржава, патрэбны законы, якія б вызначалі нашы правы, акрэслівалі, што рабіць можна, а што забаронена.

-- Канешне, калі будзе закон і механізм яго рэалізацыі, то ні адзін супрацоўнік, ні адзін прафесіянал не зможа парушыць закон, бо будзе за гэта прыцягнуты да адказнасці.

-- Нам толькі застаецца спадзявацца, што мы дажывём да пары, калі Рэспубліка Беларусь стане прававой дзяржавай. Гэта рашыла б многія нашы праблемы.

## ВОДАР ЧАСУ



Выстава гарадскога быту канца мінулага стагоддзя ў Дзяржаўным гістарычным музеі выставу амаль і не нагадвала. Гадзіннікавая майстэрня, музычная лаўка, кабінет заможнага чалавека... такімі яны і былі сто год таму. Здаецца, што вось у гэты пакой толькі што зайшла маладая жанчына, кінула на крэсла зграбны парасон і шыкоўныя пальчаткі, зараз віп'е чаю, а потым зайграе на фісгармоніі, што выдатна захавалася... Ах, гэта мінулае, гэтыя чароўныя маленькія забаўкі, з якіх ніколі не вывятрыцца водар часу. Мы навучыліся ствараць дасканалыя машыны, якія могуць адначасова вышываць сотні кветачак на сотнях ручнікоў ці сурвэтак, але колькі засталося сярод нас хаця б такіх, хто здольны дзень за днём, гадамі, руплівa, сцяжок за сцяжком вышываць дзіўны і непаўторны абрус?

-- А навошта? -- скажа нехта. Лепш стварыць больш дасканалую машыну, якая зможа вышываць больш дасканалыя ўзоры. Можна і так, але ж майстрыха, у адрозненне ад аўтамата, будзе вышываць не "серыйны выраб", а сваё жыццё, душу, лёс. А гэтага не паўтарыць ужо ніводнай машыне. У створанае рукамі майстра ўкладвае цеплыню, любоў і павагу да таго, хто будзе ім карыстацца. Ці ж магчыма, седзячы ва ўтульнай гасцінай на сапраўдных венскіх крэслах за сталом, што накрыты тым самым абрусам, пад лямпай зялёнага шкла, сварыцца да бойкі з-за канстытуцыі, партыйнай прыналежнасці і розных палітычных поглядаў? Сама абстаноўка прапануе нетаропкую размову аб сямейных справах ці пражытым дні...

І яшчэ аб адным падумалася на гэтай выставе: штампаваныя, серыйныя рэчы нараджаюць такія ж штампаваныя думкі і пачуцці, нават жыццё. Так, мы уніфікавалі жыццё, зрабілі яго больш зручным, але адначасова і спрасцілі, збяднілі сваё існаванне. Мы ўжо нават і не заўважаем гэтага, і толькі такія выставы часам нагадваюць нам, што некалі існавала нешта іншае, вельмі далёкае і, на жаль, амаль забытае зараз...

**Вераніка ЧАРКАСАВА.**

**НА ЗДЫМКАХ:** экспанаты з выстаўкі.
**Фота Віктара СТАВЕРА.**



# АНГЛІЙСКІ ПАДАРОЖНІК ПРА КНІГІ Ф. СКАРЫНЫ Ў МАСКОВІІ

(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).

Дык што тады значыць прыкмечанае Флетчарам падабенства? Памылка дыпламата ці нешта іншае? Давайце разгледзім некалькі аргументаў.

Па-першае, прыбыў і адбыў Джыльс Флетчар морам, праз Халмагоры. Таму, выходзіць, у Польшчы тады не быў. І няма сведчанняў (ці яны невядомыя), што ён быў знаёмы з польскімі выданнямі, друкаванымі лацінкай.

Па-другое, з кірылічнай маскоўскай кнігай англічанін быў знаёмы. Так, па належачаму яму царкоўнаславянскаму Новаму Запавету ён правяраў веды валагодскага епіскапа, які пакінуў не вельмі добрае ўражанне -- чытаў добра, але вызначыць, якое гэта было з чатырох Евангелляў, ён "не змог" (с. 575).

Па-трэцяе, сцвярджэнне Флетчара аб падабенстве мовы вядомай яму "польскай" (але кірылічнай?!) Бібліі з "іх мовай", г. зн. расійскай гутарковай мовай (але не выключана, што тут маецца на ўвазе літаратурная, царкоўнаславянская) даволі дакладна адпавядае сапраўднай блізкасці мовы скарынаўскай Бібліі да тых жа расійскай і царкоўнаславянскай моваў, чаго, вядома, не скажаш пра польскую.

Па-чацвёртае, гэта не магла быць Астрожская Біблія 1581 года, якая была выдадзена артадаксальна і на строгай царкоўнаславянскай мове. Флетчар напэўна не назваў бы яе мову польскай, не гаварыў бы пра падабенства яе да мовы маскавітаў. Ды і Астрожская Біблія з-за тагачасных ваенных дзеянняў паміж арміямі абедзвюх краін наўрад ці яшчэ магла трапіць у Маскву.

Урэшце, спашлёмся яшчэ на адзін аргумент. Расійскія даследчыкі спадчыны Скарыны канца XVIII -- пачатку XIX стагоддзяў называлі, падобна Флетчару, мову яго выданняў "славяна-польскай" ці "польска-рускім дыялектам".

Такім чынам, "памылка" англійскага дыпламата дазваляе нам з вялікай ступенню верагоднасці сцвярджаць, што бачыў і параўноўваў ён менавіта Біблію Скарыны. Іншага выдання Святога Пісання, блізкага па мове адначасова і да польскай, і да расійскай, пасрэднага паміж імі, тады проста не існавала. З усяго відаць, кнігі ўсходнеславянскага першадрукара ў другой палове XVI стагоддзя былі папулярнымі ў Маскве (можа, не ўсё было спалена, і, напэўна ж, нешта завозілася пазней?). І такую папулярнасць ім забяспечвалі высокі ўзровень перакладу, зразумеласць мовы, у якой шырока былі выкарыстаны пласты жывой усходнеславянскай лексікі.

Нягледзячы на адмоўныя адносіны вышэйшых царкоўных і свецкіх уладаў Маскоўскай дзяржавы XVI стагоддзя да асветы, боязь яе, якую В. Ключэўскі назваў "лацінабоязззю" і "нацыянальна-царкоўным самамненнем", кнігі Скарыны ў Масковіі збераглiся, чыталіся. Яны якраз і пашыралі асвету. І, хто ведае, можа пад іх уплывам, чытач, адзін з "жыхароў Масквы" сказаў Дж. Флетчару "па сакрэту", што "Бог прасвяціў Англію і можа з намі зрабіць таксама, калі толькі гэта будзе яму пажадана" (с. 586).

**Аляксей КАШЛЯРЧУК.**

*ГІСТОРЫЯ БЕЗ ІДЭАЛІЗАЦЫІ*

# БНР — БССР — РБ, або ПАЛЕМІЧНЫЯ НАТАТКІ З НАГОДЫ ЮБІЛЕЮ

Прапагандуемая ў эміграцкіх колах думка аб тым, што II Усебеларускі кангрэс і дзейнасць Беларускай Цэнтральнай Рады былі сведчаннем "агульнанацыянальнага ўздыму", цяжка ўзгадняецца з фактамі. Большасць удзельнікаў кангрэса былі з Мінска і Заходняй Беларусі. За ўсе тры гады акупацыі Германіі не ўдалося распаўсюдзіць сваю ўладу на ўсю Беларусь. К 1944 году палавіна яе тэрыторыі кантралявалася партызанамі.

На кангрэсе, як адзначаецца ў афіцыйнай справаздачы, сабралася больш тысячы чалавек. Дэлегатаў ніхто не выбіраў. Кангрэс "складаўся" з "нацыянальнасвядомых" асоб, "палітычнага актыву", якія па розных прычынах апынуліся ў арбіце акупацыйнай адміністрацыі. Падобна на тое, што жаданне самога дэлегата не прымалася ў разлік. Удзельнік кангрэса К.Езавітаў прызнаваў, што праз нямецкія ўстановы ў Рызе атрымаў паведамленне аб неабходнасці "быць у Мінску на Усебеларускім Кангрэсе". ("Полацак", 1993, N 5 (25), с.30).

Народ прагнуў аднаго — хутчэй пазбавіцца ад кашмару, які прынеслі заваёўнікі. У акупіраванай Беларусі фашызм праявіў сябе ў асабліва зверскіх формах. Варварскія адносіны да ваеннапалонных, генацыд, лютая расправа з працўнікамі рэжыму, спальванне вёсак разам з жыхарамі, заложніцтва, вываз моладзі ў Германію на прымусовыя работы, грабеж нацыянальных багаццяў, голад, эпідэміі -- вось тыя рэаліі жыцця, якія фарміравалі ўяўленні народа аб акупантах.

З ліпеня 1944 года Чырвоная Армія вызваліла Мінск. Тыя, хто супрацоўнічаў з нямецкімі ўладамі, меў тое або іншае дачыненне да ўстанаўлення "новага парадку", ведаючы, што іх чакае, калі вернецца савецкая ўлада, памкнуліся на захад. Іх было нямала. На допыце ва ўпраўленні контрразведкі І-га Украінскага фронта ў красавіку 1945 года К.Езавітаў, які ў БЦР быў кіраўніком ваеннага аддзела, сведчыў, што Беларуская Краёвая Абарона арганізавала 45 батальёнаў. Акрамя таго было створана 15 паліцэйскіх батальёнаў, батальён СС і чыгуначны батальён. ("Полацак", 1993, N 5(25), с.31).

БЦР асела ў Берліне, дзе атрымала памяшканне і інтэрнат для супрацоўнікаў ("Полацак", 1993, N 5 (25), с.30-31). Дэмаралізаваная Рада рабіла нейкія крокі, каб прыстасаваць сваю дзейнасць да новых умоў. Беспаспяховымі аказаліся намаганні стварыць баяздольныя беларускія фарміраванні. Масавае дэзерцірства зводзіла на нішто ўсе высілкі. На адным з пасяджэнняў БЦР у студзені 1945 года Астроўскі паведаміў, што "беларускія фармацыі ў дывізіі Зыглінга перайшлі ў палон да ангельца-амерыканцаў". ("За дзяржаўную незалежнасць", с.121).

З капітуляцыяй Германіі БЦР прыпыніла сваю дзейнасць.

Тысячы выхадцаў з Беларусі пасля заканчэння сусветнай вайны па розных прычынах апынуліся па-за межамі СССР. Сярод іх удзельнікі ваенных фарміраванняў на баку фашысцкай Германіі, асобы, якія служылі ў органах акупацыйнай адміністрацыі, актывісты Саюза беларускай моладзі, а таксама вязні нацысцкіх лагераў, вывезеныя на прымусовыя работы ў Германію, і іншыя "перамешчаныя асобы".

Бежанцы, якія апынуліся ў лагерах для "перамешчаных асоб" у Заходняй Германіі і Аўстрыі (а яны ствараліся па нацыянальнаму прынцыпу), імкнуліся мець свае арганізацыі, якія б маглі дапамагчы ім выжыць. Ужо ў 1945 годзе ў Парыжы пачала выходзіць газета "Наша Ніва", якая стала адной з крыніц палітычнай і іншай інфармацыі для беларусаў на чужыне.

**Працяг.**
**Пачатак у №№ 47--50.**

Зразумела, што тая частка асоб, якая ў той ці іншай ступені была звязана з дзейнасцю нямецкага акупацыйнага апарату і ідэалагічнымі службамі, нацыянальным рухам, больш за іншых была зацікаўлена ў стварэнні аб"яднанняў, якія маглі б згуртаваць іх на пэўнай палітычнай платформе. "Халодная вайна", што пачалася неўзабаве пасля капітуляцыі Германіі (а яна была па сутнасці ўзнаўленнем у новых формах паслякастрычніцкага процістаяння дзвюх грамадскіх сістэм), актывізавала гэты працэс, вызначыўшы напрамак і асаблівую жорсткасць канфрантацыі.

І не было нічога выпадковага ў тым, што палітычна актыўная частка беларускіх эмігрантаў, якія варожа ставіліся да бальшавізму і камунізму, звярнулася да выпрабаваных метадаў барацьбы. На парадак дня стала пытанне стварэння арганізацыі, якая магла б прэтэндаваць на агульнанацыянальнае палітычнае прадстаўніцтва. Як адзначае В.Кіпель, аўтар выйшаўшай у 1992 годзе ў Нью-Йорку кнігі "Беларусы ў Амерыцы", ганаровы доктар Гродзенскага універсітэта, ініцыятыву ў гэтай справе ўзялі на сябе "групы асобаў, якія належалі да найвышэйшага беларускага палітычнага кіраўніцтва падчас нямецкай акупацыі Беларусі ў 1941-1944 гг."

Але дзейнічалі і іншыя групы, якія мелі свае меркаванні наконт гэтага. Далёка не ўсе эмігранты лічылі, што менавіта БЦР на чале з Р.Астроўскім павінна прадстаўляць беларусаў. Так з"явіўся і другі палітычны прадстаўнічы цэнтр -- Рада БНР, якая заявіла аб сабе асобым маніфестам. Утвораная ў 1948 годзе, яна звязвала сваю легітымнасць непасрэдна з Беларускім з"ездам 1917 года. Такім чынам, у барацьбе за ажыццяўленне беларускага дзяржаўнага ідэала амаль адначасова ажылі два канкурыруючыя палітычныя цэнтры: Беларуская Цэнтральная Рада і Рада Беларускай Народнай Рэспублікі.

На парадак дня стала пытанне: хто мае права выступаць у якасці "адзінага законнага прадстаўніцтва беларускага народу і краю" ("Другі ўсебеларускі кангрэс", с.91).

Сучаснаму чытачу, спадзяёмся, будзе цікава азнаёміцца з аргументацыяй як адной, так і другой рады ў гэтай спрэчцы. Своеасаблівасць сітуацыі заключалася якраз у тым, што спрачаліся арганізацыі, якія вызнавалі вернасць ідэалам БНР, змагаліся з савецкай уладай, ненавідзелі бальшавізм, былі ў цэлым згодныя ў пытаннях сацыяльна-эканамічнага ладу Беларусі.

БЦР абгрунтоўвала сваю легітымнасць тым, што яна ўзаконена Другім усебеларускім кангрэсам у 1944 годзе. Кангрэс называўся другім, таму што лічыў сябе пераемнікам ідэй і мэтаў Беларускага з"езда 1917 года. Супраць сваіх апанентаў прыхільнікі БЦР мелі два даволі важкія аргументы. Першы: "Спроба некаторых групаў сёньня ўваскрасіць няіснуючую Раду БНР на падставе нейкіх гумарыстычна-мітычных "тэстамэнтаў", гэта спроба з нягоднымі срэдствамі іграць на несвядомасці беларускай гісторыі на Захадзе, што, урэшце, зусім слушна і расцэньваецца сёння ўсёй беларускай эміграцыяй". (Там жа, с.92).

Што ж мелі на ўвазе крытыкі, упамінаючы "тэстамэнт"?

Радзе БНР было важна паказаць не толькі сваю ідэйную пераемнасць у адносінах да І Усебеларускага кангрэса і Трэцяй устаноўчай граматы БНР, але таксама і пераемнасць арганізацыйную, якая азначае: ніколі не перарывалася ніць, што звязвала Выканком Савета Беларускага з"езда 1917 года і ўсе склады рады БНР і яе ўрада. Сцвярджалася, што прэзідэнт Рады БНР П.Крэчэўскі перадаў свае паўнамоцтвы В.Захарку, а апошні, паміраючы ў Празе ў 1943 годзе, завяшчаў свой прэзідэнцкі мандат Міколу Абрамчыку. Пра тое, як адбыўся гэты акт, падрабязна апісана ў кнізе Ларысы Геніюш "Споведзь" (1993, Мн., с.59-64). Ясна, што такі спосаб перадачы ўлады ў спадчыну не ўкладваўся ў традыцыйныя дэмакратычныя працэдуры набыцця ўладных паўнамоцтваў.

Другі аргумент. Аб якой легітымнасці Рады БНР можа ісці размова, пярэчылі бэцээраўцы, калі "ўрад БНР вядомай Бэрлінскай канферэнцыяй 20.10.1925 г. (у сапраўднасці 15.10.1925. -- **В.К.**) перакрэсліў усю дзейнасць Рады БНР, самазьліквідаваўся і прызнаў створаную бальшэвікамі БССР..." (Там жа, с.92). У ходзе палемікі і ўзаемных выкрыццяў не абышлося без абвінавачванняў адзін аднаго ў фальсіфікацыі гісторыі, у безыдэйным палітычным апартунізме, шкодніцтве беларускаму незалежніцкаму руху і інш. Так пачалося раздваенне, якое аказала непажаданы ўплыў на ўсю палітычную эміграцкую дзейнасць, хаця кожны з бакоў лічыў сябе сапраўдным прадаўжальнікам ідэй Беларускага з"езда 1917 года і Трэцяй устаўнай граматы ад 25 сакавіка 1918 года. Існаванне дзвюх структур, якія сапернічалі і аднолькава прэтэндавалі на дзяржаўнае прадстаўніцтва беларускага народа, не магло не нараджаць недавер да іх у эміграцкім асяроддзі. Узнікала пытанне: якая ж з рад "сапраўдная"? Ці ўвогуле абедзве не заслугоўваюць павагі? Гэта добра разумелі лідэры груповак. Выхадам з такога становішча, па думцы К.Мерляка, магло быць стварэнне "агульнага грамадзка-палітычнага беларускага прадстаўніцтва на эміграцыі". У гэтай рэарганізацыі бачыўся шлях актывізацыі дзейнасці эміграцыі, якая павінна "аказаць помач беларускаму народу вызваліцца з-пад расейскага панавання ды аказаць помач у скліканні Трэцяга Усебеларускага кангрэсу". (К.Мерляк. "Дзейнасць Кастуся Мерляка на эміграцыі". Нью-Йорк, 1992 г. С.320). Але спробы прымірэння, утварэння адзінага органа так нічога і не далі. Групавыя інтарэсы, асабістыя амбіцыі, барацьба за лідэрства, крыніцы фінансавання аказаліся мацнейшымі. Падзел прайшоў нават у асяроддзі пастыраў і прыхаджан.

Жыццяўстойлівасць кожнай з рад залежала не толькі ад настроенасці і падтрымкі эмігрантаў, але і ад прыязных адносін да іх заходніх дзяржаў, ад таго, наколькі функцыяніраванне палітычных эміграцкіх арганізацый адпавядала іх палітыцы ва ўмовах "халоднай вайны". Гэта, бадай, было галоўным.

Рада БНР больш імпанавала палітычным колам на Захадзе, чым БЦР. Асуджэнне калабарацыянізму, пасляваенныя судовыя працэсы над ваеннымі злачынцамі, праследаванне асоб, якія супрацоўчічалі з нямецкімі акупантамі, -- усё гэта стварала неспрыяльную атмасферу для тых, хто так ці інакш, у той ці іншай ступені быў датычны да гітлераўскага "новага парадку". Таму пераважала думка аб тым, што патрэбен прадстаўнічы цэнтр, "які б не выклікаў асацыяцый з падзеямі вайны нацыстаўскай Нямеччынаю". (Кіпель В., с.165). Раду БНР у меншай ступені можна было папракнуць у гэтым, хаця на яе бок перакінуўся шэраг бліжэйшых саратнікаў Р.Астроўскага. Ды і сам прэзідэнт рады М.Абрамчык у немцаў быў у пашане. Таму Рада БНР, лічылі яе апекуны, павінна ажыццяўляць "дзейнае і законнае палітычнае прадстаўніцтва". (Кіпель В., с.161).

Зрэшты, англійскія сакрэтныя службы не чужаліся ўзначальваемай Р.Астроўскім БЦР. К.Мерляк мяркуе, што такая палітыка была вынікам падкопаў К.Філбі -- савецкага агента ў англійскай сакрэтнай службе, які меў на мэце раскалоць беларускі рух ва ўгоду бальшавікам. Але можна думаць і другое: на выпадак ваеннага канфлікту з СССР Англія планавала выкарыстаць беларускія фарміраванні. Бо не выпадкова Р.Астроўскі прапаноўваў паслаць беларускія часці для ўдзелу ў карэйскай вайне на баку ЗША.

## 9. РАДА БНР У ПАСЛЯВАЕННЫЯ ДЗЕСЯЦІГОДДЗІ

Стваральнікі Рады БНР хацелі бачыць у асобе свайго дзецішча "парламент на чужыне", які б выступаў у якасці прадстаўніка беларускага народа, абараняў яго інтарэсы на міжнароднай арэне, кіраваў барацьбой за вызваленне радзімы ад бальшавікоў. (В.Кіпель, с.146). Яна заклікана была ахапіць сваім уплывам беларускую дыяспару ва ўсім свеце. На такую ж ролю, калі не ў большай ступені, прэтэндавала і БЦР.

Пасля М.Абрамчыка, памёршага ў 1979 годзе, пасаду старшыні Рады заняў В.Жук-Грышкевіч. Яго змяніў Б.Рагуля. З 1982 года Раду ўзначальвае Язэп Сажыч. Да 1970 года штаб-кватэра Рады знаходзілася ў Парыжы, потым у Канадзе, а з 1983 года -- у ЗША, што сталі цэнтрам палітычнага жыцця беларускай міграцыі. (Кіпель, с.192).

Арганізацыйная структура Рады БНР мянялася, прыстасоўваючыся да гістарычных умоў. Персанальны склад Рады, які меў прэзідыум, сакратарыят, урад, дасягаў 200 чалавек "з усяго свету". Але большасць з іх жыхары ЗША. Прэзідэнт Рады вызначае, хто дастойны быць яе членам. Гэта рашэнне потым зацвярджаецца сесіяй Рады. З членаў Рады ствараліся секцыі, своеасаблівыя ячэйкі, якія павінны былі весці ідэйную і арганізацыйную работу ў краінах, дзе былі значныя ачагі беларускіх бежанцаў -- ЗША, Канада, Аргенціна, Аўстралія, Бельгія, ФРГ.

Быў уведзены таксама інстытут прадстаўніцтва Рады БНР у Італіі, Іспаніі і Бразіліі.

Сферай свайго ўплыву Рада разглядала таксама культуру і навуковую дзейнасць. Фонд імя Пётры Крэчэўскага фармальна стварыўся пры Радзе БНР. Яго мэта -- садзейнічанне, перш за ўсё матэрыяльнае, развіццю навукі і мастацтва. У гэтай сувязі варта ўпамянуць і Беларускі інстытут навукі і мастацтва ў Нью-Йорку.

Даючы агульную ацэнку Радзе БНР, В.Кіпель прыходзіць да высновы: "Рада Беларускае Народнае Рэспублікі, дакладна кажучы, ня ёсць ні палітычнай арганізацыяй, ні партыяй, ні ўрадам на выгнанні, хаця ў 1919--1920 гадах яна складалася менавіта як экзыльны ўрад. Гэта ідэалагічная асамблея, сымбалічны працяг Рады Беларускае Народнае Рэспублікі, абвешчанай у Менску 25 сакавіка 1918 году". (Там жа, с.192). У функцыянальных адносінах "дзейнасць Рады складаецца пераважна з інфармавання амерыканскіх і сусветных палітыкаў аб палітычнай сітуацыі на Беларусі..." (Там жа).

І па сцвярджэнню К.Мерляка, у эміграцкіх колах было прынята лічыць, што Рада БНР з"яўляецца "носьбітам і сымбалем беларускай дзяржаўнасці ў вольным свеце "ў процівагу "фікцыі БССР". (Мерляк, указаны твор. С.402).

Як палітычная арганізацыя, Рада БНР імкнулася заняць сваё месца ў жыцці дыяспары. Яна прэтэндавала на ролю яго кіруючага цэнтра. Але гэтага фактычна не адбылося. На пярэдні план выйшлі амерыкана-беларускія палітычныя арганізацыі.

У ЗША ў асяроддзі беларускай дыяспары, як можна меркаваць па літаратуры, сфарміравалася даволі разгалінаваная сістэма арганізацый, якія мелі палітычныя, культурныя, рэлігійныя і іншыя мэты. У час другой сусветнай вайны прыкметную ролю ў палітычным жыцці ЗША адыгрывала Беларуска-Амерыканская Нацыянальная Рада (БАНР), у дзейнасці якой прымаў удзел першы прэм"ер БНР Язэп Варонка. Кіруючыся ідэямі Устаўных грамат БНР, арганізацыя выступала з заявамі аб праве Беларусі на самавызначэнне і стварэнне дэмакратычнай нацыянальнай дзяржаўнасці. Пасля вайны яна наладзіла кантакты з узнікшымі ў Заходняй Еўропе беларускімі палітычнымі аб"яднаннямі, у прыватнасці з групай М.Абрамчыка. У пачатку 50-х гадоў БАНР пайшла па рэчышчу рэлігійнай дзейнасці. Цікавая дэталь: Я.Варонку, аднаму з бацькоў БНР, прапагандысту яе ідэалаў у ЗША, было адмоўлена ў гонары быць членам БНР. (В.Кіпель, с.152--171). У першыя пасляваенныя гады актыўна дзейнічаў Злучаны Беларуска-Амерыканскі Дапамаговы Камітэт, які садзейнічаў міграцыі беларускіх бежанцаў у ЗША.

Асобае, калі не кіруючае, месца ў сістэме арганізацый беларускай дыяспары ў ЗША заняло Беларуска-Амерыканскае Задзіночанне (БАЗА), створанае ў 1949 годзе. Сваю задачу арганізацыя бачыла ў падтрымцы акцый "як амэрыканскіх, гэтак і беларускіх арганізацыяў ці ўраду, што дзеяць на карысць Амэрыкі і Беларусі", змагаючца за вызваленне Беларусі "з-пад савецкага панавання". Восьмы кангрэс БАЗА (май 1959 г.) заклікаў ЗША і ўвесь вольны свет праводзіць пазітыўную палітыку вызвалення прыгнечаных у СССР народаў. (Мерляк К., с.167).

**Вадзім КРУТАЛЕВІЧ.**

Янка БРЫЛЬ

# "КАЛІ Б БЕЛАРУСУ ЗАГАДАЛІ БЫЦЬ БЕЛАРУСАМ..."

**Нядаўна пачуццё нацыянальнай годнасці беларусаў зноў, каторы ўжо раз, было зняважана... самімі беларусамі. 17-ты артыкул праекта Канстытуцыі, які замацоўвае за беларускай мовай статус дзяржаўнай, не быў прыняты Вярхоўным Саветам і адпраўлены на дапрацоўку. Дэпутаты нацыянальнага парламента, "шчыра" не разумеюць ганебнасці сітуацыі, калі прапануюць узняць статус рускай мовы і абвясціць яе афіцыйнай.**

**"Што мы за нацыя такая! -- без пачуцця ўласнай годнасці, без энергіі". Гэта словы Янкі Брыля з новай падборкі яго запісаў "Свае старонкі", змешчанай у кастрычніцкім нумары часопіса "Полымя". Пісьменнік прапануе гэтым разам тое, што ў свой час не пабачыла свету з меркаванняў, ад яго не залежачых. Мы выбралі з мноства разнастайных і мудрых запісаў тыя, у якіх роздум і горыч Янкі Брыля за свой народ, сваю мову, сваю чалавечую і пісьменніцкую годнасць. Не, не ўсе беларусы бяздзейныя і абыякавыя. Лепшыя з іх ніколі не цураліся матчынай мовы, змагаліся за яе, абуджалі ў суайчынніках іх нацыянальную свядомасць.**

## 1961

***

Часамі быць толькі самім сабою, беларускім пісьменнікам, і то -- подзвіг. Аднак паводзіны свае -- разумнае рашэнне рабіць галоўнае, на ім канцэнтраваць увагу -- не хочацца лічыць філасофіяй баязлівасці. Бо я не памятаю самога сябе без любві да Расіі, да рускай мовы, літаратуры, не памятаю сябе беларускім нацыяналістам, хаця даўно і сам, іназаўсёды вырашыў, што кожная бочка павінна стаяць на сваім уласным дне.

***

Учора былі нанесены дзве чарговыя раны майму нацыянальнаму пачуццю, а трэцюю -- нанёс сабе я сам. У бухгалтэрыі літфонду БССР мяне папрасілі заяву напісаць па-руску, каб ім было лягчэй чытаць... І я напісаў, а потым многа і балюча думаў пра тое, што многае мы робім самі, што самі мы вахлакі. І гадка было на душы, і думалася, што трэба не быць абыякавым да пытанняў, якія толькі мы, відаць, лічым няважнымі.

## 1962

***

Да 70-годдзя Сталіна быў падрыхтаваны выдатны падарунак: інкруставаны партрэт самога бацькі з самым звычайным подпісам: "Вялікаму... ад беларускага народа". У самы апошні момант адзін з адказных таварышаў праявіў пільнасць і падняў гвалт: "Што ж мы робім?" На недаўменне менш пільных ён сказаў: "Ад беларускага народа -- вы падумалі, што гэта азначае па-руску?! За ноч было перароблена: "Великому... от белорусского народа".

***

Мілы, сентыментальны Дзіма Кавалёў пры нашай выпадковай сустрэчы ў Маскве напісаў у маім блакноце некалькі слоў сваёй далёкаўсходняй сяброўцы Юліі Шастаковай. Я перадаў ёй гэтую пісульку ў аэрапорце, дзе нас сустракала група хабараўцаў. Пасля яна, расказваючы мне пра нашых землякоў на Далёкім Усходзе, перадала здзіўленне сваёй дачкі: "А навошта яна наогул, гэтая беларуская мова?.." Праўда, Шастаковай хтосьці з яе сяброў сказаў: "Юлія Аляксееўна, не разводзьце расавай тэорыі"; праўда, тут можна зрабіць скідку на бабскую балбатлівасць, але ж як дыхнула адразу тым самым вялікадзяржаўным -- агромністым, цяжкаботым і п'яна-нахабным -- шавінізмам, які мы адчувалі дома так часта і так балюча. І як жа гэта хапае нахабства і слепаты мадэрнізаваць, проста прыстасоўваць гэты імперскі шавінізм да... камунізму, нават і пачынаць той камунізм з найбольшым поспехам ад гэтага?! У "Дружбе народаў" я так і сказаў у гутарцы з загадчыкам аддзела крытыкі: "Ну што гэта мне за праблема -- на якой мове хоча пісаць асецін Агаеў?.." Сумна гэта ўсё, дзіка. І таму так прыемна сустрэць сапраўднае -- ад вялікай рускай душы, ад сапраўднай рэвалюцыйнасці, ад сапраўднай дружбы народаў.

## 1963

***

Намёк, які трэба расшыфраваць. Як я адчуваў сябе на першай сесіі, у ролі "члена ўрада", у ролі апарата для паднімання рукі і пляскання далонямі. Пагана адчуваў, было няёмка і сумна, асабліва пасля таго, як на паседжанні камісіі па культуры нейкая фіфа-настаўніца выскачыла з першым пытаннем: "А что же будем делать с белорусским языком?.."

## 1965

***

Учора была ў нашым клубе сустрэча з настаўнікамі рэспублікі, выкладчыкамі беднай беларускай мовы. Яны не пагаджаюцца са становішчам, мы -- таксама, і гэта добра, гэтага трэба больш. Бо лішне ж у нас жабрацкая псіхалогія! Гаварыў пра гэта ў сваім выступленні.

...Адзін з настаўнікаў, беларус з заходніх абласцей, расказваў, як ён у мінскай сталоўцы загаварыў, заказваючы абед, з касіркай на роднай мове і касірка здзівілася:

-- Вы пісьменнік?

***

Да Баранавіч з дому ехаў з сям'ёй (маладыя бацькі і дзяўчынка), якая вяртаецца з цаліны. Сёе-тое цікава расказвалі. Ну што за натура ў беларуса! Вось пабыў наваельненскі лапцявоз тры гады ў Казахстане і ўжо гаворыць, як шмат там было ў яго не качак, а "уцей". І вось застаецца зноў дома, у сваёй глухамані, і гэтыя "уцей" з імі застануцца, можа, а то і напэўна, назаўсёды. Дзіўная, гадкая, страшная здольнасць да асіміляцыі.

***

...Ад'язджалі пазаўчора ад Мінска. Рускі хлопец, ну, малады мужчына, нядрэнны, відаць, чалавек -- і на працы, і дома, і наогул, -- а ўсміхнуўся і паведаміў мне ледзь не з палёгкай:

"Ну, вот, наконец-то не надо будет больше слышать белорусского языка..."

Да чаго ж яны ўсё-такі сталі адкрыта нахабнымі! Нахабства мацнейшых, каму не пагражае кара і сорам за гэта. Не толькі гэты, як потым, калі ён атрымаў ад мяне разоў некалькі пад дыхлю, аказалася -- абмежаваны чалавек, прасцяк, але ж і людзі інтэлігентныя. У Кактэбелі, абедаючы разам за сталом, драматург Любімава спыталася ў мяне, ці ёсць у нас у Мінску беларускія школы. Кажу, што няма.. І яна мне, беларусу, беларускаму пісьменніку -- спакойна так, культурна -- кажа:

-- А это и правильно. Будут лучше говорить по-русски..."

Божа мой, якая мілая, тонкая, асвечаная многімі імёнамі агіда! Дружба, узаемная любоў... І самае балючае, што спасылаюцца яны на нашых, а нашы вахлакі -- ну, што за нацыя такая! -- без пачуцця ўласнай годнасці, без энергіі... Анталогію выдаем, апавяданні збіраем ды абмяркоўваем, дык рэдкалегію не збярэш, а сабраўшы -- не пагаворыш па-людску. Слова праўды не скажа, не пагаворыць сур'ёзна, як быццам робіць не для сябе. "Апошні год арэнды..." І сапраўды -- быць беларускім пісьменнікам -- подзвіг.

Ну, вось табе і цішыня для працы... Ці ўцякаць куды, ці тут трэба навучыцца не паддавацца нашаму пошламу асяроддзю.

## 1966

***

Шкада стала нашу мілую вясковую малечу, якую трохі прывучаць да роднай граматы, а потым адсаджваюць ад яе, адрываюць -- нялюдска...

***

Раней я думаў так:

Калі б беларусу дазволілі быць беларусам, які гэта быў бы цудоўны беларус!..

Днямі, на сесіі Вярхоўнага Савета, слухаючы, як здорава рэжуць некаторыя кіраўнікі па-беларуску, нават не проста з паперкі, а так сабе, адрэдагаваў свой ранейшы горкі "афарызм" наступным чынам:

Калі б беларусу загадалі быць беларусам... і г.д.

## 1967

Два дні пасля пазаўчарашняга заключнага канцэрта фестывалю мастацкай самадзейнасці прыкрае, да агіды нуднае адчуванне... Ад брэсцкага "хору рускай (!) народнай песні"... ці як ён там называецца, і ад усяго канцэрта, дзе за два вечары з сарака нумароў праграмы... шэсць нумароў беларускіх...

Некаму ж гэта патрэбна!.. Не толькі сваім прыдуркам ды падхалімам.

І нічога гэтае "рускае" не мае агульнага з сапраўдным рускім, якое я люблю -- усё жыццё.

***

Трэба сёння рабіць, што трэба. Вось кончу гэты запіс і буду рыхтаваць тэзісы нашай гутаркі ў ЦК -- пра зноў і зноў новыя праявы вялікадзяржаўнага шавінізму. Калі мяне туды не запросяць -- трэба дапамагчы Максіму як найлепш выказаць тое, што мы павінны выказаць. Калі ж пайду і я -- буду самім сабою. Хай расце мая слава "беларускага кацыяналіста", што дайшла ўжо і да Масквы...

## 1969

***

Жонка звярнулася да мяне па-руску, і я адказаў ёй на гэтай мове. Якую люблю даўно. Якая воляй шавіністаў -- залівае наша жыццё, выжывае нашу родную мову. Якая міжволі ўваходзіць і ў наша жыццё, у жыццё найбольш свядомых нацыянальна... І я -- здаецца, як ніколі, ясна адчуў, што я -- пісьменнік народа, заціснутага на працягу гісторыі паміж двума мацнейшымі народамі, носьбіт і, у нейкай меры, творца той мовы, якой было і ёсць, і будзе вельмі нялёгка ў цясноце паміж дзвюма моцнымі, выдатна распрацаванымі мовамі. Мне гаварылі ўжо, і неаднойчы, што ў рускай мове, калі б я пісаў па-руску, мне было б лепш, мяне ведалі б і цанілі б куды больш... Я ем свой горкі хлеб па святым сваім абавязку, я не здраджу яму, бо проста не змагу, але ж як мне часамі -- і часта -- хочацца адпачыць ад свайго служэння, ад свайго падзвіжніцтва, адчуць ад чытача тое, што адчуваюць у сваім нацыянальным асяроддзі мае калегі палякі, рускія, немцы і ўсе тыя іншыя літаратары, не ўсе лепшыя за мяне, для каго няма пытання мовы, няма пакутаў, болю, смутку за яе...

Толькі б мне выказаць гэта так ясна, каб зразумелі, што гэта -- не "нацыянальная абмежаванасць", а здаровае нацыянальнае пачуццё. Зрэшты, людзям, аслепленым шавінізмам, і іхнім лакеям нічога, відаць, не давядзеш... Зрэшты, бяда мая, наша -- ужо ў тым, што я думаю, як мне давесці, што я маю права любіць сваё...

## 1971

Сын мае пляменніцы, мужчына ўжо (неўзаметку) трыццацігадовы, вырашыў вярнуцца з Расіі ў Мінск. Цяжка з прапіскай -- зайшлі з мамай да мяне. Абы як зачапіцца. Дзеці будуць у бабы, у вёсцы. Але ж таксама там доўга не могуць быць -- старэйшаму трэба ў школу. "Дык там жа школа ёсць", -- кажу яму. "Вы знаете, дядя Ваня (дзедам мяне з ветлівасці не заве), -- она там белорусская, не хочется детей калечить.." "А жонка твая адкуль?" -- пытаюся, падумаўшы, што яна, можа, руская. "Ды з нашай вёскі, наша", -- умяшалася яго маці.

З гэтым ідуць да сваяка -- беларускага пісьменніка!

Не хочацца думаць, што будзе...

Цяжка нават уяўляць сябе такім жа нармальным літаратарам свайго народа, як які-небудзь англічанін, паляк ці наш эстонец, -- у тым асяроддзі, якое гаворыць на тваёй мове, якому ты патрэбен як свой...

Падумалася ўчора: а ці не ў гэтым часткова прычына і майго непісання? Адна з прычын?..

***

Кончыўшы Карскага ("Белорусы. Введение к изучению языка и народной словесности"), не ўстрымаўся, выпісаў:

"В таком состоянии оказалась белорусская народность и ее язык на пороге XX столетия, когда приняты меры к окончательному сравнению ее с господствующими классами населения".

Скажам па-ленінску: "Гм! Гм!..." Гісторыя -- у іншай форме -- паўтараецца. І так жа горка гэта, а сутыкаешся з такім, у розных праявах, амаль кожны дзень.

***

Расію, рускіх тут, у Балгарыі, вельмі любяць. Аднак "другой роднай мовы" -- няма. Ад гэтага ў такой пашане слова, песня, ад гэтага тут лягчэй быць пісьменнікам, чым у нас.

***

Кот з'есць мыш і азіраецца, куды яна падзелася. Так у нас з беларускай мовай... Школы пазакрывалі, і пачаўся "натуральны працэс" пераходу на "другую родную мову".

Успомнілася, як нябожчык Г. Кісялёў на праглядзе заключнага канцэрта рэспубліканскай алімпіяды мастацкай самадзейнасці здзіўляўся, што няма -- амаль зусім няма -- беларускіх нумароў. Здзіўляўся... міністр культуры!

***

Не запісаў увечары прыкрага, горка-агіднага ўражання ад "национальной гордости"... не "великоруссов", а нашых беларусаў.

Некалькі дзён таму назад былая красуня, худзенькая юрыстка-яўрэйка, у шчырай гутарцы "паміж інтэлігентамі" гаварыла Ч. і мне, што хутка сюды, у Літву, будзе прыслана значна больш рускіх, "чтобы растворить противных националистов". На маё абурэнне яна адказала, хітранька баронячыся: "Напрасно вы, Иван Антонович, никто так, кроме вас, не думает".

Што ж, "яўрэі заўсёды ўсё ведаюць". Я і сам неяк чуў, што так маецца быць. Для ўмацавання дружбы народаў?..

А ўчора нашы беларусы, ідучы са сталовай пасля сытай вячэры, мне, беларускаму пісьменніку, высмейвалі нашу родную мову... Што мы за нацыя?.. А нехта ж па гэтым халуйскім смеху робіць вывады пра "дабравольны пераход", пра "дзве родныя мовы", з якіх адна, беларуская, ужо ледзьледзь сям-там трымаецца.

Сцяпан Алейнік, адпачываючы ў другім санаторыі "Белоруссия", у Сочы, зрабіў Кастрычніцкі даклад... на беларускай мове. Ён рагатаў, расказваючы мне пра гэта, а адзін з нашых шакіраваных тады, былых вяльможаў гаварыў мне другім разам пра тое самае ЧП: "Напрасно он это! Да что, они ведь все националисты..." Такім чынам і ўкраінец быў беларускім нацыяналістам.

А што ўжо было б сказана пра гэтыя мае разважанні?..

***

Філосаф, работнік ЦК КПСС, а можа, і праўда "падпалкоўнік":

-- Хватило бы вам и 10%. Это все выдумка интеллигенции. 10% -- гэта для беларускага ў планах нашых выдавецтваў, а "выдумка інтеллигенции"... наша мова.

Дык вунь ажно адкуль яно ідзе!..

З цвярозай асцярожнасцю я адказаў яму:

-- На эту тему лучше говорить с утра.

У сэнсе -- праспіцеся. Бо вячэралі мы з віном*.

## 1977

Наколькі лепш адчуваў бы сябе беларускі пісьменнік, калі б ён чуў навокал (не толькі ў вёсцы або ў сваім саюзе) родную мову, калі б, пішучы на гэтай мове, можна было думаць, што ўсюды ці хоць у больш-менш лічаных краінах нехта ведае, вывучае яе, мае слоўнікі, каб слова наша даходзіла да замежнага чытача не праз рэшата рускага перакладу, а сваім уласным гучаннем. Каб мець такія правы, як гэты Фюман, якога перакладаюць з арыгінала, бо мова яго -- не "дыялект", як гаварыў пры мне пра нашу адзін, нават прыязны, польскі русіцыст, а паўнапраўная еўрапейская мова...

## 1980

Як гэта цяжка -- быць беларускім пісьменнікам у нашай мелкай, бесхрыбетнай правінцыі, у блакадзе "моўнага бар'ера", без роднага дома, які ёсць у літоўцаў, армян, эстонцаў... У іх жа няма майго, нашага адчування: як пад нагамі абсоўваецца бераг, як звужаецца кола чытачоў, як мова наша адыходзіць!..

## 1982

На канферэнцыі таварыства "Радзіма" мяне папрасілі выступаць... па-беларуску: "Гэта патрэбна для радыё на заграніцу, для суайчыннікаў"... Беларускага пісьменніка просяць гаварыць па-беларуску!.. Назаўтра ахвотна пайшоў на сустрэчу з супрацоўнікамі БСЭ, што робяць купалаўскі том, каб "паправіць душу" родным словам... Што з намі будзе?..

***

У "Литгазете" -- Айтматаў пад рубрыкай "Пісьменнік і час". Выступаў у ЗША пра расавую дыскрымінацыю, у адказ на пытанні, як у нас са становішчам нацменшасцей, -- глушыў сваім, і сапраўды вялікім поспехам (за пяць гадоў -- дзевяноста замежных выданняў!), як доказам, што ўсё ў парадку з гэтым. Ёсць такі поспех у нейкай меры і ў нашага Быкава. А разам з тым -- хутка зусім не будзе школ на роднай мове...

Нізавы пажар?..

***

"Усердие не по разуму".

У кнізе "А хто там ідзе?" мовы розных народаў ішлі пасля арыгінала па алфавіту. "Высокаідэйная" заўвага зверху: "А чаму гэта ў вас руская мова ідзе пасля румынскай? Паправіць!"

Пакуль перарабляць, можна было б спытацца: "А можа, пусцім першым рускі пераклад, а тады ўжо арыгінал?.."

---

* Запісана ў Іспаніі.

# "ТЭАТР – ВОСТРАЎ, ЯКІ ХАЦЕЛІ Б МЫ ЗРАБІЦЬ СВАІМ РАЙКОМ"

21 лістапада тэатр імя Якуба Коласа ў Віцебску святкаваў 67-ю гадавіну з дня свайго нараджэння. Карэспандэнт газеты "Голас Радзімы" сустрэлася з мастацкім кіраўніком і дырэктарам тэатра Валерыем МАСЛЮКОМ.

**-- Валерый Васільевіч, вы пачыналі сваю працу як рэжысёр у Віцебску. Потым быў магілёўскі тэатр, тэатр імя М.Горкага ў Мінску. І вось амаль год вы зноў працуеце ў тэатры імя Якуба Коласа. Гэта новае назначэнне ці вяртанне!**

-- Віцебскі тэатр для мяне -- выбар. Тэатр Якуба Коласа --першае каханне. Гэта вяртанне ў тэатр, дзе я любіў людзей, з якімі працаваў, яны, здаецца, любілі мяне. Я ўпэўнены, што тэатр мае ўсе падставы быць лепшым, чым ёсць сёння, бо ён варты гэтага па свайму ўзроўню, па творчаму патэнцыялу, па месцазнаходжанню ў Віцебску. Тэатр Якуба Коласа быў сапраўды першым для мяне і, думаю, стане апошнім. Калі я не змагу тут да канца пабудаваць свой дом, то, здаецца, не варта брацца болей за любую справу.

**-- Скажыце, калі ласка, ці ўтульна адчуваюць сябе ў адным крэсле Маслюк-дырэктар і Маслюк -- мастацкі кіраўнік тэатра, рэжысёр!**

-- Я спадзяюся, што ў маім выпадку дырэктар усё ж такі падпарадкоўваецца рэжысёру Маслюку. У сілу асабістых рыс характару я не адчуваю вялізнага цяжару сумяшчэння дзвюх прафесій. Я не думаю, што ўсе мастацкія кіраўнікі павінны рабіцца дырэктарамі. Але, калі загад падпісвае дырэктар, у якога ёсць прафесійная адукацыя рэжысёра і ён можа прафесійна ацаніць працу акцёраў, у ягоным роспісу больш аўтарытэту і сэнсу.

Калі з'явіцца відавочны вынік маёй працы як дырэктара ці як рэжысёра ў тэатры, то людзі ўбачаць, што ў мяне атрымліваецца лепш. Пакуль жа я вучуся разбірацца ў лічбах і раблю гэта сур'ёзна. Інакш не было б сэнсу брацца за справу.

**-- Вы рыхтуецеся паставіць на сцэне "Караля Ліра". Што значыць для вас гэты спектакль!**

-- "Кароль Лір" -- п'еса пра мяне. Сёння я -- маленькі цар. Як толькі я перастану бачыць жыццё, людзей, я стану каралём Лірам, які раздасць каралеўства тым, хто яго не любіць. Калі я не буду адчуваць людзей, пра што я буду ставіць спектаклі? Вар'яцтва караля Ліра -- вар'яцтва ад улады, а не наадварот. Аддаўшы ўладу і стаўшы над усім, Лір зрабіўся звычайным чалавекам. Пазбавіўшыся кароны караля, Лір звар'яцеў. Яго вар'яцтва -- гэта празрэнне. Я не хацеў бы быць каралём Лірам напачатку. Я жадаю быць вар'ятам, які бачыць раптам, што людзі галодныя, абарваныя, забіваюць адзін аднаго, бачыць рэальнае жыццё.

Тэрмін выпуску спектакля, на жаль, яшчэ не вызначаны, адцягваюць увагу іншыя важныя справы. У лістападзе мы ездзілі ў Франкфурт-на-Одэры са спектаклем "Вечар", каб браць удзел у дабрачыннай акцыі па збору сродкаў у дапамогу ахвярам Чарнобыля. Вясной тэатр едзе зноў у Германію на камерцыйныя гастролі. Тэатру патрэбны грошы. І мы будзем іх зарабляць. Ужо заключаны кантракты. Трэба разумець, што тэатр Якуба Коласа будзе прадстаўляць у Германіі Беларусь. Ад першай паездкі залежыць стаўленне да Беларусі на Захадзе і ці трапіць тэатр туды калісьці яшчэ раз. Таму да гастроляў неабходна ўжо рыхтавацца, укладваць у іх грошы сёння. А знаходзіць іх даволі цяжка, бо на мяне як чалавека мастацтва проста не звяртаюць ўвагі, не паважаюць. (Калі сёння на патрэбы культуры прыходзіцца 3 працэнты ад дзяржбюджэту. Калі дырэктар акадэмічнага тэатра не можа запрасіць у сваю трупу акцёраў, бо баіцца, што не знойдзе ім жытла). Часам мне здаецца, што для дзяржавы было б лепш, каб нас не было наогул. Знік бы наш тэатр разам з іншымі такімі і іх праблемамі – усё стала б прасцей. Застаўся б народ і дзяржава. Дзяржава не мае інтарэсу ў культуры. У лістападзе пастаноўка спектакля рэжысёрам ацэньвалася ў 100 тысяч рублёў. Сярэдняя зарплата акцёра складала 60 тысяч рублёў. Я думаю, што калі ў новым годзе будзе яшчэ горш, то першымі з тэатра пойдуць самыя таленавітыя. У такіх людзей большыя патрабаванні да жыцця, што заканамерна. Ніхто сёння не аналізуе, якія людзі знікаюць з тэатра і мастацтва. Зараз нікога не цікавіць, дзе больш твораў беларускіх мастакоў -- тут ці за мяжой.

**-- Які ж выхад, Валерый Васільевіч!**

-- Трэба шукаць вар'ятаў, якія маглі б наперакор усяму працаваць у тэатры ці дапамагаць яму.

**-- На дзяржаву ў вас няма надзеі!**

-- Яна мне нагадвае чалавека, які ўмее плаваць, але раптам разгубіўся, трапіўшы ў ваду. Крычыць і берага не бачыць. Для яго існуе толькі страх, каб не патануць. А куды ж плыць? Гэта самае галоўнае. Мы ўсе такія: кожны выратоўваецца. Ніхто нікуды не плыве. Бераг жа ёсць. Пра яго толькі трэба падумаць і ўспомніць, як ратаваліся іншыя людзі. Можна прааналізаваць вопыт чалавецтва, іншых краін і ўбачыць бераг. Я ўпэўнены, што ён прыгожы, а прыгажосць -- гэта мастацтва. Сёння магчымасці культуры не ўлічваюцца як патэнцыяльны прыбытак. Можна ж заняцца міжнароднымі абменамі. У нас жа не існуе нават цэнтра такіх абменаў у сферы культуры. Неабходныя інфармацыйныя банкі мастацтва (якія ёсць у многіх краінах), дзе знаходзяцца звесткі пра тое, што рабіў, робіць і збіраецца рабіць кожны творца. На жаль, я асабіста не адчуваю, што магу паўплываць нечым на пазіцыю Вярхоўнага Савета ці Міністэрства фінансаў. Гэта ізноў будзе голас вар'ята. Таму я магу ўздзейнічаць на іх толькі вынікам сваёй працы. Будзе "Кароль Лір" падзеяй -- можа і звернуць увагу на тэатр.

**-- Валерый Васільевіч, ці адчуваецца ўплыў нашага збяднелага і духоўна пустога часу на творчую атмасферу тэатра!**

-- Такі ўплыў больш адчуваецца ў сталіцы, дзе акцёры ўдзельнічаюць у палітыцы, дзе больш магчымасцей здымацца ў кіно. Там яны часта больш разгубленыя, чым у Віцебску. У нас ідуць тыя ж працэсы -- з'яўляюцца багатыя людзі, бяднеюць акцёры. Але гэта не так востра адчуваецца. Наш тэатр -- гэта востраў, які мы хацелі б зрабіць сваім райком. Нават газету выпускаць пачалі з назвай "Раёк". Мы хочам, каб у тэатры была атмасфера, у якой можна было б гаварыць пра вечнае, а не пра недахоп каўбасы. Я мару пра норму ў любові, веры, творчасці. Я не хачу апярэджваць свой час, гаварыць пра рух наперад. Я хачу прыйсці да нармальнага парадку рэчаў. Наш тэатр стаіць на рэштках царквы. Мы асвяцілі сцены будынка да 67-й гадавіны з дня нараджэння тэатра. Гэта не даніна модзе, а патрэба. Храм не можа быць нехрышчоным. Гэта таксама крок набліжэння да нормы.

**-- У газеце "Раёк" вы пішаце, што хацелі б, каб у вашым тэатры ігралі пра "неўміручае нават для трыццаці гледачоў"...**

-- Гэта ідэал. Мне здаецца, што ў свой час тэатр гінуў па дзвюх прычынах. Першая -- вымушанае існаванне на лініі палітыкі. Другая -- жаданне спадабацца кожнаму гледачу. Жаданне спадабацца лёгка пераходзіла ў какецтва. Ад яго недалёка да пошласці, вульгарнасці...

Сёння на сцэне можна паказваць усё. Галоўнае для мяне -- не перайсці мяжу.. Калі яна набліжаецца, я ўсё больш хачу адысці ад какецтва і вярнуцца да таго, што Бог наканаваў сказаць.

**-- Вы не дапусціце, каб у тэатры Якуба Коласа ігралі творы масавай культуры!**

-- Не дапушчу.

**Алена СПАСЮК.**

# ЧЫРВОНЫ СТРУМЕНЬ СВАБОДЫ

**(Валерый УРУБЛЕЎСКІ)**

Свой гнеўны голас у абарону абрабаванага рэформай сялянства, у абарону справядлівых патрабаванняў польскага, беларускага і іншых народаў узнімаюць А. Герцэн і М. Агароў у "Колоколе". З'яўляюцца пракламацыі і ў самой Расіі. З восені 1861 года хвалююцца студэнты ў рускіх універсітэтах. Як грыбы пасля цёплага дажджу, узнікаюць тайныя гурткі і арганізацыі, ствараецца ўсерасійскае рэвалюцыйнае таварыства "Зямля і воля".

Адначасова фарміруюцца падпольныя арганізацыі ў беларускіх і літоўскіх губернях, асобныя звенні аб'ядноўваюцца ў супольную арганізацыю Беларусі і Літвы.

Стварэнне агульнай арганізацыі на Гродзеншчыне звязана найперш з імем вялікага беларускага рэвалюцыянера Кастуся Каліноўскага, які вясной 1861 года прыбыў з Пецярбурга на радзіму, каб прысвяціць сябе барацьбе за свабоду. Мужны, непахісны барацьбіт, таленавіты канспіратар здолеў аб'яднаць разрозненыя гурткі Гродзеншчыны ў адно цэлае. Першымі памочнікамі Каліноўскага былі наш Валерый, таварыш Урублеўскага па Лясному інстытуту Ян Ваньковіч (сын вядомага мастака Валентыя Ваньковіча), браты Заблоцкія, каморнік Ільдафонс Мілевіч, службовец Станіслаў Сангін, беларускі паэт Фелікс Ражанскі, святар Ігнат Казлоўскі і іншыя.

Саколка Урублеўскага, побач з Гродна і Вялікай Бераставіцай, дзе жылі Ражанскі і Казлоўскі, адразу ж стала важнейшым цэнтрам, адным з галоўных апорных пунктаў Гродзенскай рэвалюцыйнай арганізацыі.

Эразм Заблоцкі расказваў, што ў 1861 годзе, "неўзабаве пасля варшаўскіх падзей", Урублеўскі запрасіў яго ў Саколку. Прыехаўшы, Заблоцкі застаў там Каліноўскага і Сангіна. "Размова ішла пра варшаўскія падзеі. Канстанцін Каліноўскі і Урублеўскі сказалі мне, што складваецца арганізацыя,.. якая павінна хутка сфарміравацца па ўсёй Літве, і прапанавалі мне прыняць у ёй удзел..."

У паперах царскага следчага Гогеля ёсць накід пад назвай "Прыгоды Каліноўскага". Гэта канспектыўныя выпіскі з паказанняў арыштаваных удзельнікаў паўстання. Вось пачатак дакумента: "У 1861 годзе (неўзабаве пасля варшаўскіх дэманстрацый) Канстанцін Каліноўскі ў горадзе Саколцы ва Урублеўскага. У першых жа летніх месяцах таго ж года Каліноўскі з Урублеўскім зноў былі ў Гродне..." Характэрна, што побач з Каліноўскім у дакуменце часцяком называецца імя Урублеўскага. Урублеўскі -- нязменны спадарожнік вялікага Кастуся.

Мы не ведаем дакладна, калі Урублеўскі і Каліноўскі пазнаёміліся. Хутчэй за ўсё першае знаёмства адбылося яшчэ ў Пецярбургу: цэлы год яны знаходзіліся побач, хадзілі па адных і тых жа вуліцах і праспектах. Каліноўскі прыехаў у сталіцу паступаць ва універсітэт улетку 1856 года, Урублеўскі скончыў інстытут у маі 1857 года. Улічваючы тагачасную цесную сувязь студэнтаў-землякоў, існаванне зямляцтваў, можна не сумнявацца, што Урублеўскі і Каліноўскі не толькі ведалі адзін аднаго, але і сустракаліся. Праўда, апошні год студэнт Урублеўскі праходзіў практыку ў Лісінскім вучэбным лясніцтве, але гэта непадалёк ад Пецярбурга, і практыканты праводзілі вольны ад заняткаў час у горадзе.

Першае знаёмства ўзмацнела і перарасло ў трывалае сяброўства двух змагароў-аднадумцаў пасля вяртання Каліноўскага на радзіму. Сяброўства з Каліноўскім -- адно з самых моцных уражанняў, каштоўных набыткаў у багатым падзеямі жыцці Урублеўскага. Валерыя многае захапляла ў не па гадах сур'ёзным сябры: душэўная чысціня, найглыбейшая, можа нават хваравітая справядлівасць, бескампраміснасць. І асабліва -- адчуванне непарыўнай сувязі з працоўнымі людзьмі. Гэтыя маладыя па сутнасці хлопцы свядома ўсклалі на свае плечы вялікую ношу -- клопат пра лёс радзімы, пра лёс пакрыўджанага люду.

Каліноўскі памог Урублеўскаму разабрацца ў складаным становішчы, якое ўзнікла тады на Беларусі і ў Літве, намеціць правільную лінію.

Складанасць заключалася ў тым, што тут не толькі сяляне бунтаваліся супраць паноў, але і дваранства (у большасці польскае або паланізаванае) хвалявалася, не задаволенае палітыкай царызму ў нацыянальным пытанні. Польскія ліберальныя памешчыкі, якія аб'ядналіся ў арганізацыю "белых", марылі пра незалежнасць, патрабавалі далучэння Літвы і Беларусі да Каралеўства Польскага, але перспектыва ўзброенага выступлення супраць царызму іх палохала. Гэта былі палітыканы, якія аддавалі перавагу дыпламатычным сродкам барацьбы.

"Чырвоныя" -- дробнае дваранства, афіцэры, навучэнцы, разначынцы -- смела ўзялі курс на ўзброенае паўстанне, аднак сярод іх таксама не было адзінства. Сацыяльныя патрабаванні многіх былі вельмі абмежаваныя. Існавала блытаніна і ў поглядах па нацыянальнаму пытанню. Толькі рэвалюцыйныя дэмакраты, якія складалі левае крыло "чырвоных", прытрымліваліся паслядоўна рэвалюцыйных лозунгаў -- апора на сялянскія масы, ліквідацыя памешчыцкага землеўладання, свабода і раўнапраўе ўсіх народаў.

Правадыр рэвалюцыйнай дэмакратыі на Беларусі і ў Літве Кастусь Каліноўскі вёў упартую барацьбу за радыкальную праграму і ў гродзенскай арганізацыі, і ва ўтвораным у Вільні Літоўскім правінцыяльным камітэце. Валерый Урублеўскі цалкам і поўнасцю падтрымліваў свайго сябра па ўсіх прынцыповых пытаннях. Паказальна, што калі ў ходзе падрыхтоўкі паўстання ўзнікалі спрэчкі паміж Цэнтральным нацыянальным камітэтам у Варшаве і камітэтам Літоўскім, Урублеўскі быў заўсёды на баку апошняга, цвёрда адстойваючы інтарэсы Беларусі і Літвы. "Ведаю таксама, -- піша Тадэвуш Урублеўскі, -- што Валерый сярод тагачасных патрыётаў прадстаўляў кірунак радыкальна-дэмакратычны і так сказаць -- "краёвы", бо выступаў за падтрымку беларускай народнасці". Кіраўнік Беластоцкай арганізацыі і член Цэнтральнага нацыянальнага камітэта Браніслаў Шварцэ таксама адзначаў у сваіх успамінах, што пасля ўзнікнення спрэчак паміж варшаўскім і віленскім камітэтамі Урублеўскі "перастаў падпарадкавацца Варшаве". Добра ўзгадняюцца з гэтым і іншыя сведчанні пра тое, што Урублеўскі выказваў інтарэсы беларускага народа, быў адным з кіраўнікоў "літоўскай партыі".

Імя Урублеўскага тым больш дарагое беларускаму народу, што -- побач з Каліноўскім -- ён стаяў ля калыскі беларускай дэмакратычнай прэсы: улетку 1862 года Каліноўскі разам са сваімі сябрамі па Гродзенскай арганізацыі прыступае да выдання славутай "Мужыцкай праўды", якая ўвайшла ў гісторыю як першая беларуская газета. Акалічнасці выдання газеты дагэтуль ахутаны таямніцай. Гісторыкі лічаць, што ў яе выданні, апрача Каліноўскага, прымалі непасрэдны ўдзел Урублеўскі, Ражанскі і Сангін.

Сем нумароў падпольнай газеты, выпушчаных на працягу 1862--1863 гадоў, -- гэта сем трапных залпаў па асновах самадзяржаўя і прыгонніцтва.

**Генадзь КІСЯЛЁЎ.**

**Працяг.**
**Пачатак у № 50.**



СПАДЧЫНА

# СМАЛЯНЫ

## (НАРЫС З ГІСТОРЫІ ВЁСКІ)



### СЕНАТАР І ІНЖЫНЕР

Недзе ў 1840-х гадах ад князёў Сангушкаў Смаляны перайшлі ў валоданне да графскага роду Патоцкіх, з якімі Сангушкі парадніліся яшчэ на пачатку XIX стагоддзя. У студзені 1847 года ад былога паручніка польскіх войск Тамаша Міхайлава графа Патоцкага мястэчка набыў памешчык, сенатар ды тайны саветнік Аляксей Васільевіч Сямёнаў. У лютым 1864 года ў валоданне Смалянамі ўступіў яго сын Уладзімір.

Не дзіўна, што новы ўладар мястэчка -- высокапастаўлены расейскі чыноўнік -- надзвычай прыхільна ставіўся да палітыкі прымусовай русіфікацыі, якую шырока актывізаваў урад краю пасля паўстання 1863 года. Паўсюдна заахвочваўся пераход з каталіцызму ў праваслаўе. Калі ў самых Смалянах у 1840 годзе было 49 вернікаў каталіцкага веравызнання, то ў 1868 годзе -- ужо толькі 22 чалавекі. У тым жа годзе Смалянскі рыма-каталіцкі парафіяльны касцёл быў ператвораны ў філіяльны і залічаны да Аршанскай парафіі. Вынікам такіх дзеянняў сталася яшчэ большае змяншэнне колькасці вернікаў, к 1880 году ў мястэчку было толькі 6 католікаў.

У 1864 годзе ў Смалянах была пабудавана мураваная праваслаўная Аляксееўская царква, рэшткі якой захоўваюцца да нашага часу. Псеўдарускія формы новага храма не надта стасаваліся да існуючага ў старажытным мястэчку архітэктурнага асяроддзя, аднак цалкам адлавядалі палітычным густам новага гаспадара. Не бачачы вялікай карысці ў існаванні рэштак замка "Белы Ковель", спадар сенатар пачаў прадаваць сцены на злом з мэтай здабычы цэглы. Не ацалела б, напэўна, і апошняя вежа замка, калі б у другой палове 1870-х гадоў Смаляны не набыў інжынер шляхоў зносін Валерый Аляксандравіч Цітоў. Ён не толькі не дазволіў бурыць вежу, але нават паспрабаваў умацаваць яе контрфорсамі.

Інжынер Цітоў стаўся апошнім прыватным уладаром Смалян.

На гэтым, бадай што, можна і перапыніць аповяд пра гісторыю вёскі Смаляны. Адышлі ў нябыт яе колішнія насельнікі -- слынныя князі ды простыя сяляне. Аднак застаецца на зямлі месца, дзе па-ранейшаму павольна нясе свае воды рака Дзярноўка, штогод квітнеюць сады і спеюць у лугах травы. А непрыкметная беларуская вёска, як і сотні падобных да яе, тоіць у сабе скарб памяці, неацэнны скарб нашае ўласнае гісторыі.

**Людміла ХМЯЛЬНІЦКАЯ,**
**сябра Міжнароднай асацыяцыі беларусістаў.**

**НА ЗДЫМКУ: Н. Орда. Смаляны. 1877 г.**

# У АРХІВАХ — ГІСТОРЫЯ НАРОДА

**(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).**

**У апошнія гады цікавасць да мінулага свайго краю, гісторыі народа прыкметна ўзрасла, і таму работнікі ўстановы вядуць навуковае даследаванне дакументаў, мікрафільмуюць, рыхтуюць да выдання. Тут убачаць свет экцыклапедычнае выданне па генеалогіі і геральдыцы дваранскіх родаў Беларусі, серыя матэрыялаў і дакументаў часоў другой сусветнай вайны. Па заданню Вярхоўнага Савета і ўрада рэспублікі супрацоўнікі музея дапамагаюць аднаўляць добрыя імёны людзей, у асноўным беларускай інтэлігенцыі, рэпрэсіраваных у 20--30-я гады. Апублікаваны дакументы пра Янку Купалу, матэрыялы, звязаныя з Беларускай Народнай Рэспублікай. Амаль 50 гадоў несправядліва абвінавачвалі кіраўніка Мінскага падполля І.Кавалёва ў супрацоўніцтве з акупантамі. Дзякуючы знойдзеным дакументам, яго імя ачышчана ад бруду. Знойдзена справаздача аб размініраванні Беларусі ў 1944--1945 гадах, і тыя, хто прымаў удзел у гэтай аперацыі, змогуць атрымаць дакументы, якія гэта пацвердзяць. Наогул у архіў штогод прыходзіць да 20 тысяч розных запытаў, з асабістымі просьбамі звяртаюцца самыя розныя людзі, якія хочуць удакладніць свой працоўны стаж або высветліць штосьці пра мінулае свайго роду. У архівістаў работы непачаты край. І вельмі перашкаджае ім тое, што да гэтага часу не прыняты Вярхоўным Саветам закон "Аб архіўным фондзе і архівах Рэспублікі Беларусь".**



По описи утвержденныхъ дѣлъ № 102

ДѢЛО

Минскаго Дворянскаго Депутатскаго Собранія
о дворянскомъ происхожденіи
рода Мицкевичей

Первоначальныя определенія Депут. Собранія

Указъ Правительствующаго Сената объ утвержденіи



**НА ЗДЫМКАХ: у сховішчы архіва; рэдкія дакументы з Нацыянальнага архіва Беларусі.**



...annes Casimirus Dei Gratia Rex
Polonia Magnus Dux Litvania ...
Prussia Masovia Samogitia Kiovia ...
...ynia Livonia Smolensciae Czernichov...
que necnon Suecorum Gotorum Vandalo-
rumque haereditarius REX.

Рэдактар Вацлаў МАЦКЕВІЧ

ЗАСНАВАЛЬНІК:

Беларускае таварыства па сувязях з суайчыннікамі за рубяжом (таварыства "Радзіма").



НАШ АДРАС:

220600, МІНСК, ПРАСПЕКТ Ф. СКАРЫНЫ, 44.

ТЭЛЕФОНЫ: 33-01-97, 33-02-80, 33-03-15, 33-16-56, 33-07-82.

Пазіцыя рэдакцыі і аўтараў, матэрыялы якіх друкуюцца на старонках "Голасу Радзімы", не заўсёды супадаюць.

Газета набрана і звярстана ў камп'ютэрным цэнтры рэдакцыі газеты "Вечерний Минск". Аддрукавана ў друкарні "Беларускі Дом друку". Індэкс 63854. Зак.1782. Падпісана да друку 20. 12.1993 г.